

*ІВАН ЛУЦКЕВІЧ.*
*(10. VI. 1881—20. VIII. 1919).*

*Рыс. П. Сергіевіч.*

# БЕЛАРУСКІ СЬВЕТ

BYELORUSSIAN WORLD
NO. 12 (41) - 1982

# ЯВАР І КАЛІНА

*Словы Я. Купалы* *Музыка Ю. Семянякі*

СПАКОЙНА

Пес– няй вяс– ны ле– бя– дзі– на–
– ю, скі– нуў–шы зім– ні– я ча– ры,
шэп– чуц–ца я– вар з ка– лі– на– ю
у сум– най да– лі– не над я– рам.
Шэп– чуц–ца я– вар з ка– лі– на– ю
у сум–най да– лі– не над я– рам.

Песняй вясны лебядзінаю,
Скінуўшы зімнія чары,
Шэпчуцца явар з калінаю
Ў сумнай даліне над ярам. | 2 разы.

Лісцікі зеленяй хваляцца
Небу панятлівай мовай,
Росамі мыюцца раніцай,
Песцяцца сонцам паўднёвым. | 2 разы.

Чуецца музыка дзіўная
Ў повесцях сонных імшараў.
Цешацца явар з калінаю,
Скінуўшы зімнія чары. | 2 разы.





М. КУПАВА. Маладая Беларусь (да кнігі лірыкі Я Купалы, лінарыт, 1981 г.).

## ПІЯНЕР АДРАДЖЭНЬНЯ
## БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАСЬЦІ

Тытул гэткі ў беларускім дзяржаўніцкім руху можа належаць і характэрызаваць толькі аднаго чалавека — **Івана Луцкевіча.** Роля ягоная ў нашым руху, у нашым дзяржаўніцка-незалежным руху, адзіная, піянерская. Хоць, трэба засьцерагчыся — часам і вельмі цяжка, ды проста немагчыма, разьмежаваць дзейнасьць Івана Луцкевіча зь дзейнасьцяй ягонага брата Антона, дык падобна, як Колас і Купала, найчасьцей яны згадваюцца разам, разглядаюцца ўпоруч. Тым ня менш Іван Луцкевіч мае найхарактэрнейшую асаблівасьць: ён — пачынальнік, ён — арганізатар, ён — рухавік. Ён — лідар, ён — вядучы.

Ён

— арганізаваў "Кружок Беларускае Народнае Асьветы" ды запачаткаваў рэгулярнае друкаваньне беларускіх падручнікаў і кніжак;

— вышукваў, зьбліжаў ды арганізоўваў беларускі нацыянальны актыў ды ператвараў яго ў дзейныя палітычныя партыі й групоўкі ў Пецярбургу, Вільні й Менску. Раньнія беларускія палітычныя й грамадзкія дзеячы, як В. Ластоўскі, В. Іваноўскі, Я. Купала, Я. Колас, А. Уласаў, М. Шыла, Э. Будзька ды шмат, шмат іншых былі ўцягнутыя ды зьвязаныя зь беларускай палітычнай дзейнасьцяй Іванам Луцкевічам;

— быў галоўным піянерам і арганізатарам выданьня "Нашае Долі" й "Нашае Нівы", а пазьней і газэты "Гоман";

— здабываў сродкі ды фінансаваў як вельмі лічныя беларускія палітычныя пачыны, гэтак і беларускія выдавецтвы, у тым ліку й выданьне "Нашае Нівы";

— засноўваў і арганізаваў беларускае пачатковае школьніцтва ды беларускую гімназію ў Вільні;

— быў адным зь першых, хто яшчэ ў "Нашай Ніве" паставіў пытаньне арганізацыі Беларускага Ўнівэрсытэту;

— заснаваў Беларускае Навуковае Таварыства ды заклаў **першы** беларускі музей, пазьней названы ягоным імём, а яшчэ пазьней гэтак пабарбарску разрабаваны акупантамі;

— ды ці не найбольшая заслуга Івана Луцкевіча перад Беларусяй у тым, што ён першы вывеў беларускую справу й беларускія палітычныя дамаганьні на міжнародную арэну. Ён сфармуляваў палітычныя дамаганьні Беларусаў на міжнародных канфарэнцыях у Вільні, Пецярбургу, Маскве, Штакгольме ды Лёзане.



Бясспрэчна, што тытул палітычнага пачынальніка ў беларускім нацыянальным руху належыць Івану Луцкевічу.

Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя прысьвяціла Івану Луцкевічу ўсяго колькі радкоў. Кароткія біяграфічныя дадзеныя: народжаны ў гор. Шаўлі, Ковенскай губ. 28. 5. 1881, памёр 20. 8. 1919. Скончыў унівэрсытэт. Беларускі архэалёг, этнаграф і грамадзкі дзеяч. Далей згаданыя некаторыя дзялянкі дзейнасьці Івана Луцкевіча й канчаецца нататка тым, што Іван Луцкевіч падтрымоўваў лёзунг культурна-нацыянальнае аўтаноміі для нацыянальных меншасьцяў. Вельмі каратка, у крытычным тоне. Больш інфармацыі ў савецкім друку, калі ня ўлічваць газэткі "Голас Радзімы", пра Івана Луцкевіча ня было. Зьявілася, праўда, пра яго колькі артыкулаў у беларускай газэце "Ніва", што друкуецца ў Польшчы. Аднак, Іван Луцкевіч для сацыялістычнага блёку ня прыймальны. Ён нацыянальна беларускі. Аб ім падаецца тое-сёе ў друку, бо абмінуць яго нельга. Ягоны сьлед у беларускім палітычным адраджэньні відаць усюды.

Беларускі-ж нацыянальны рух аддае належную пашану гэтаму вялікаму дзеячу: пра яго напісана цімала працаў, артыкулаў. Вывучаецца яго палітычная спадчына. Для нацыянальнага руху, як было выказана раней "Іван Луцкевіч закладчык першага вуглавога каменя пад нашую нацыянальную й дзяржаўную незалежнасьць".

І можна з пэўнасьцяй цьвердзіць, што Івану Луцкевічу некалі ў Беларускай Вольнай Дзяржаве, тэарытычныя падмуркі якое, ды першыя трывалыя крокі да зрэалізаваньня гэтае мэты, былі зробленыя ім, імя ягонае будзе высечанае ў Беларускім Капітолі з тытулам:

ПІЯНЕР БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАСЬЦІ — ІВАН ЛУЦКЕВІЧ.

Вітаўт Кіпель

## ГІСТАРЫЧНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ НАШАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭНЬНЯ

### ПЯЦЬ ДЗЁН З БАГУШЭВІЧАВЫМ УНУКАМ

Хто ўважліва чытае «ЛіМ», той, мабыць, памятае студзеньскую публікацыю «Адысэя Багушэвічавай бібліятэкі». У ёй расказвалася, як вядомаму беларускаму дасьледчыку кітабаў, цяпер ужо нябожчыку, Антону Антановічу ў часе вайны надарылася натрапіць на Багушэвічаву бібліятэку. Было гэта на хутары Асінаўка, паблізу Ашмянаў. І прывёў яго на гэты хутар нехта Тарчэўскі. Імя яго Антановіч не памятаў. Але з усёй падрабязнасьцю апісаў тую сустрэчу, згадаў назвы некаторых кнігаў, якія ён бачыў у старой скрыні на асінаўскім хутары.

На гэтым Антановічава апавяданьне абрывалася. Больш ён з Тарчэўскім не сустракаўся й нават ня ведаў, дзе ён жыве і які яго лёс.

І вось нагода. У Вільню з Польшчы прыехаў пагасьцяваць той самы Тарчэўскі, які паказваў Антановічу кнігі з Багушэвічавай бібліятэкі, ды пера-

даў некаторыя новаму знаёмаму. Вестка была такая нечаканая, што разважаць ня было калі. Дзён праз колькі я ў Вільні на Варшаўскай 23, у доме Тарчэўскіх. Гаспадары знаёмяць мяне са сваім госьцем. Я з захапленьнем разглядваю: сярэдняга росту, з прыгожымі сівымі, крыху зьвіслымі вусамі гладка прычэсанымі. У белай моднай кашулі. Векам дасьпелы. У шэрых разумных вачох — шчырасьць і дабрата. Завуць яго Янка, дзядзька Янка. Нарадзіўся ў 1915 годзе Маці яго звалі як хто: Маня, Марыся, а найчасьцей — Мар'я. Яна — дачка Багушэвічавай сястры Ганны. Значыць, Багушэвічу пляменьніца. А зь яе нарадзіўся я, — кажа пра сябе дзядзька Янка. — Багушэвіч мне стрыечны дзед. Бабулькі сваёй Ганны не памятаю, але казалі, што «была яна рухавая, настойлівая, ад свайго ніколі не адступала».

Што іхняя сям'я крэўная Багушэвічам, пра гэта ён ведаў з маленства. Дый маці ні раз расказвала пра гэта. Была яшчэ жывая сваяцкая сувязь з Багушэвічавай дачкой Туняй і яе мужам Янкам. Дзядзька Янка хлапчуком, а пасьля падлёткам і дзяцюком ня раз быў у Кушлянах і Ашмянах. — «Яны-ж мне двойчы свае», — удакладняе дзядзька Янка сваё сваяцтва з Багушэвічавай дачкой Туняй і яе мужам. — «Яна мне родная цётка, а ён — родны дзядзька. Яны-ж і хрысьцілі мяне. Так што кругом радня...»

— «Бачыў і крыху, ледзь-ледзь памятаю Багушэвічаву жонку Габрыелю Шклёньнік. Была яна тады старэнькая, але да ўсіх надзвычай уважная. У сям'і яе, ого, як ёй ганарыліся».

Ведаў таксама дзядзька Янка, што Багушэвічава імя вельмі шануюць у Беларусі, але ня ўяўляў, што тут такую вялікую цікавасьць маюць да ўсіх драбніц яго жыцьця. Толькі чым-жа ён, дзядзька Янка, можа быць карысны? Самога Багушэвіча ён, зразумела, не памятае. Адно хіба, што маці апавядала. А апавядала яна, Ганна, што з братам Францішкам хадзілі на паўстаньне (1863), як ратаваліся, як іх доля па сьвеце параськідала...

Я прыпамінаю, што Францішак Багушэвіч меў яшчэ трох братоў. Ці ня чуў ён вестак пра іх?.. — «Мая матуля толькі пра Францішка гаварыла. Яна ягоныя здымкі зьберагла... Вось паглядзіце», — і працягвае мне некалькі старых, на тоўстай паперы з карычневай выяваю фотаздымкі сярэдзіны мінулага стагодзьдзя. — «Як ехаў, з сабою ўзяў. Думаю, усё роўна гэта калі-небудзь прападзе, загіне...»

Перада мною на гэтых старых здымках тры абліччы. На гэтым пазнаю Францішка Багушэвіча. Пры круглым, модным тады століку-аднаножцы, у тагачаснай грубой сьвітцы. Такі здымак з зацемкай «Перад паўстаньнем» ёсьць і ў сямейным альбоме, які захоўваецца ў Дзяржаўным музэі БССР. Здымак гэты нашай грамадзкасьці ведамы. Зроблены ён у 1863 г. Прывезены дзядзькам Янкам — яшчэ адзін Багушэвічавай выявы 1863 году. І гэта таксама цікава.

А хто-ж на другім здымку? Дзядзька Янка сьцьвярджае, што на ім таксама Францішак. Так, падабенства з Францішкам Багушэвічам ёсьць. Такая-ж пастава галавы, шыі, такі-ж аваль твару, барада, вусы. Нават вопратка знаёмага крою. І ўсё-ж пры ўсім вонкавым падабенстве сумненьне выклікаюць дзьве дэталі. Нятыповы, не характэрны для Францішка Багушэвіча пагляд вачэй. Занадта ён узьнёслы, самазадаволены. І вочы сьветлыя. У Францішка-ж яны былі шэрыя, самотныя. І яшчэ: здымак з даравальным надпісам. Ён для нас вельмі важны, таму працытуем яго поўнасьцю. «На памяць каханай сястры Ганьне ад брата» — і пакручасты, зь ня вельмі чытэльнай першай літарай імя й подпіс: «А. Богуш... 24 верасьня, 1876 году». Вось гэтае «А» якраз не дала магчымасьці зь дзядзькам Янкам пагадзіцца. З гэтай прычыны паўстала некаторае расчараваньне. Абодвым вельмі-ж хацелася, каб гэта быў Францішак Казімеравіч, тым больш, што паэтавай дакумантацыі 1876 году мы ня маем...

— «А мне маці ўвесь час казала, што гэта Францішак, — усё яшчэ са шкадаваньнем у голасе кажа дзядзька Янка. — Яна вельмі берагла гэтыя здымкі. Перахоўвала іх з рознымі сваімі памяткамі ў невялікай скрынцы. Яе яна пільна сьцерагла. Яна яе прывезла з сабою ў Польшчу ў лютым 1946 г. Там і цяпер яшчэ тое-сёе ёсьць з бацькавых папераў, розныя здымкі: бабчыны, Туніны, маміны, Франкавы... Вось мама-б шмат чаго магла расказаць пра кажнага зь іх. І жыла яна доўга... Семдзесят дзевяць гадоў. Памерла ў 1961 годзе. Багушэвіча і яго братоў пэўне-ж што ведала й бачыла. У 1900 годзе ёй было аж васемнаццаць...»

Што-ж, сапраўды, дачка Багушэвічавай сястры Ганны Мар'я магла-б шмат чаго расказаць. Але страчанага ня вернеш. Таму будзем гаварыць пра тое, што памятаецца хоць трэцяму пакаленьню людзей, якія мелі сутык да Багушэвічавай сям'і, да яго рэчаў, яго памяці. Я паказваю дзядзьку Янку публікацыю Антановічавага апавяданьня пра Багушэвічаву бібліятэку й пытаюся, што ён можа дадаць да расказанага.

— Ну, што-ж тут дадаваць? — скончыўшы чытаньне, кажа разважліва дзядзька Янка. — Усё праўда, усё так і было, як тут апісана, як расказаў Антановіч. Багушэвічавы кнігі па сьмерці паэтавай дачкі, а маёй цёткі Туні перайшлі да мяне. Толькі не адзін Антановіч браў у мяне Багушэвічавы кнігі. Цэлы мех узяў Багушэвічавых кніг і Пяцюкевіч (быў у Ашмянах такі школьны інспэктар). Зь ім пазнаёміў мяне Зыгмунт Абрамовіч, яшчэ адзін Багушэвічаў унук, які ў той час жыў у Ашмянах. Здаецца, яны меліся вывесьці гэтыя кнігі, як памяткі, у Вільню ці яшчэ куды. Які лёс кнігаў ня ведаю. Рэштку, як я ішоў у сорак чацьвертым годзе на вайну, выбраў са скрыні, зьвязаў у мяшок і, каб мышы не стачылі, падвесіў у пуні пад бэльку. Былі там юрыдычныя, праўнічыя кнігі: законы розныя, кадэксы... Памятаю, што на ўсіх была пачатка «Францішак Багушэвіч», выціснаная такая. Пераважалі кнігі расейскія. Разам з Багушэвічавымі кніжкамі былі й мае, за Багушэвічавы далі Антановіч і Пяцюкевіч. А далі яны мне, помню: «Хрэстаматыю беларускае (крыўскай) кнігі»... Вялікая такая, тоўстая кніга была... Я, браце мой, хай табе будзе й гэта ведама, любіў і люблю чытаць беларускія кнігі, даўно імі цікаўлюся. Ведаў творы Алеся Гаруна, Леапольда Радзевіча, Міхася Васілька й шмат каго іншых.

Наша маёмасьць у Асінаўцы разам з Багушэвічавымі кнігамі перайшла да Чайкоўскай Станіславы. Яна была нашай выхаванкай. Яна зьберагла Багушэвічаў сямейны альбом. А што з кнігамі сталася, вы ўжо ведаеце... Яны загінулі. Вінаватыя ў гэтым і паэтавы сваякі. Не перадалі ў сваю пару яго спадчыну ў надзейныя рукі, хоць да іх ня раз зьвярталіся. Не шанавалі яны Францішка як паэта... Таму шмат чаго й загінула. І ня толькі кнігі, — кажа з дакорам і сумам дзядзька Янка. — У гэтым была іх цэлая бяда. Яны не хацелі прызнаваць сябе беларусамі. Усе ў адно — палякі, палякі ды й усё... А што дзед іх пісаў пабеларуску, дык гэта, яны лічаць, адно толькі забава была...»

Асабліва шмат чаго ўспомніў дзядзька Янка, калі гартаў стары Багушэвічаў сямейны альбом, той самы, што спачатку быў у Тарчэўскіх, а пасьля ў Чайкоўскіх. Найбольш гэта былі весткі пра другое й трэйцяе пакаленьне Багушэвічаў. Усе

гэтыя весткі вельмі цікавыя, і яны ўкропяцца ў адпаведнія нарысы пра сваякоў нашага песьняра. Наведалі мы зь ім яго родныя мясьціны, чыталі й перачытвалі праўдзівыя Багушэвічавы творы. Знаёміліся са шматлікімі дакумантамі. Гэта была надзвычай цікавая праца! Да кажнага зь іх дзядзька Янка даваў свой камантар, удакладненьні, выказваў свае думкі, свой погляд.

Паехаў дзядзька Янка дадому, у невялікі, пад Шчэцінам гарадок акрылены, зь яшчэ большым усьведамленьнем сваёй прыналежнасьці, сваёй лучнасьці да Багушэвічаў. У сваёй вандроўніцкай замежнай торбе ён павёз цэлую гару беларускіх кнігаў. Сярод іх — беларускія казкі, кніжкі прафэсара Янкоўскага, новае выданьне Купалавай паэмы «Адвечная песьня», славутую паэму Міколы Гусоўскага «Песьня пра зубра» і, вядома-ж, кніжкі свайго дзеда. «Што сам пачытаю, што ўнукам пакажу», — сказаў ён на разьвітаньне.

Абяцаў пасьля вяртаньня ў Польшчу расшукаць усіх, хто меў хоць якое дачыненьне да Багушэвічавай спадчыны. Сярод іх — таго самага Пецюкевіча, якога ён надзяліў кніжкамі з Багушэвічавай бібліятэкі, Станіславу Тамашэўскую, яшчэ аднаго найстарэйшага Багушэвічава ўнука Зыгмунта Абрамовіча, каб яшчэ раз пагутарыць зь імі, сабраць да драбніц усе весткі пра бацьку беларускага адраджэньня Францішка Багушэвіча й тое асяродзьдзе, у якім ён жыў і працаваў.

Гутарка зь дзядзькам Янкам яшчэ ня скончана. Яна будзе доўжыцца праз перапіску. Пяць дзён нашых сустрэч — гэта, спадзяюся, толькі пачатак цікавай размовы.

Уладзімір СОДАЛЬ «ЛіМ» 1982

---

**Мікола Волацiч**

## ЖЫД МІНІСТРАМ СКАРБУ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

Варожая прапаганда, а за ёй і некаторыя нашыя публіцыстыя трубяць аб нацыянальна-рэлігійным уціску, што быццам пачаўся пасьля шлюбу Ягайлы зь Ядзьвігай ды ўтварэньня вуніі Польшчы зь Літвой. Варожая прапаганда, зусім ня лічачыся з гістарычнай праўдай, угаварвае, што пераход Ягайлы, Вітаўта ды іншых князёў у каталіцтва быў пачаткам перасьледу веры праваслаўнай у В. Кн. Л., пачаткам палянізацыі, ды канцом вялікай талеранцыі, зь якой слынуў наш народ. На самай справе вунія Літвы з Польшчай была выклікана палітычнымі меркаваньнямі, пайменна нямецка-крыжацкай небясьпекай, а таксама й татарскай пры калябарацыі суздальска-маскоўскіх князёў. Апрача гэтага праз вунію з Польшчай Літва станавілася аднэй з магутных тагачасных дзяржаваў. Нашчадкі Ягайлы будуць імкнуцца пашырыць Літоўскую імпэрыю яшчэ далей, на Вугоршчыну, Чэхію, Сілезію. Каталіцтва было прыкрыўкай гэтай вялізнай літоўскай палітыкі, каб выбіць козыр крыжаком і іх нямецкім пратэктарам, быццам Літва — паганская ці сьхізматыцкая, супраць якой неабходныя крыжовыя паходы ўсёй Эўропы. Унутры В. К. Л. ня сталіся амаль ніякія паважнейшыя зьмены, і талеранцыя не пераставала існаваць надалей. Як адзін з прыкладаў гэтай вялікай таляранцыі Літоўскай імпэрыі разгледзім тут жыдоўскае пытаньне ды ўдзел жыдоў у самых кіруючых становішчах В. Кн. Л., і гэта ў той час, калі на Захадзе Эўропы шалеў антысэмітызм, пагромы жыдоў ды іх баніцыя (гон з краю).



Прасьлед жыдоў ведамы ў гісторыі ад найдаўнейшых часоў. Ён ведамы ў Эгіпце, Асырыі, Бабілёніі ды ў самай Палестыне, чынены валадарамі, заваёўнікамі яе. У Эўропе жыды зьявіліся як палонныя й рамесьнікі пасьля заваяваньня Палестыны Рымскай імпэрыяй у 65 г. перад нараджэньнем Хрыста. Масавыя дэпартацыі жыдоў мелі месца пасьля жыдоўскага паўстаньня 67 г. новае эры. Жыды пасяліліся ў Італіі, Грэцыі, Малой Азіі, Галіі, у Надрэніі, Гішпаніі. Тут яны займаліся рамесьніцтвам, гандлем, гародніцтвам. Разьвіцьцё сярэднявечных гарадоў спрыяла палепшаньню становішча жыдоў у Эўропе. На працягу стагодзьдзяў (да 13 ст.) жыды ў гарадох заходняй Эўропы былі вядучай нацыяй у банкірстве, у рамесьніцтве й гандлі. Здолелі разьвіваць сваю культуру, талмудыстычную філязофію.

Першая рэакцыя супраць жыдоў у Эўропе пачалася пагромам жыдоў у Надрэніі ў часе першага крыжовага паходу 1096 г. Трэйці й чацьверты Лятэранскія Саборы (1179-1215), змагаючыся зь ерасю Альбігензаў (жыдуючых), прынялі пастановы ў справе адмежаваньня хрысьціянаў ад жыдоў. Было забаронена вернікам уваходзіць у жыдоўскія сынагогі й на жыдоўскія набажэнствы, жыды мелі насіць жоўтыя латы дзеля вонкавага адрозьненьня ад хрысьціянаў. Пастановы гэтыя былі ўводжаныя рознымі краінамі ў розным часе й прывялі ў наступных стагодзьдзях да поўнай ізаляцыі жыдоў у гэтта.

Гон жыдоў з краіны ў Эўропе пачаў ангельскі кароль Эдвард І-шы ў 1290 г. Крыху пазьней, у 1306 г., жыды былі выгнаныя з большых гарадоў Францыі. Далейшыя пагромы мелі месца ў 1315 і 1350 ды наступных гадох. Частка жыдоў перайшла Альпы ды асела ў Ватыканскай дзяржаве, карыстаючы з папскай талеранцыі. Іншая, большая частка, спынілася ў Нямеччыне, дзе ў розных княствах былі розныя парадкі і агульнага гону жыдоў ня было. Тым ня менш, жыдоўства ў Нямеччыне ня чулася бясьпечным, бо ў большых гарадох адбываліся жыдоўскія пагромы, уводзіліся гэтты й розныя абмежаваньні. Галоўны шлях жыдоўскай міграцыі вёў далей на ўсход, у Польшчу й Літву. Польшча адкрыла свае граніцы для жыдоў пры Казіміры Вялікім (1333-1370). Жыды атрымалі ня толькі права азылю, але і адумысныя прывілеі.

У нас жыды пачалі сяліцца ў местах і мястэчках пры Гэдыміне. Але й раней жыды былі на нашых землях. Яшчэ ў 1800 г. існаваў на жыдоўскім магільніку ў Эйшышках нагробны камень з годам, адпавядаючым нашаму 1170. Такія старыя жыдоўскія магільнікі ведамыя і ў іншых местах. Праф. Ярашэвіч уважае, што першыя жыды сталі сяліцца на нашых землях пасьля выгнаныя зь Кіеўскай Русі Уладзімірам Манамахам у 12 веку.

Новая хваля жыдоў прыйшла да нас з захаду, галоўным чынам зь Нямеччыны й Польшчы ўжо пасьля Крэўскай вуніі. Хочучы ўладзіць свае гарады на лад заходні, Вітаўт дазволіў жыдом сяліцца ў сваіх уладаньнях. Гэтак ён выдаў 24 чэрвеня 1388 г. прывілей жыдом Троцкім, 2 ліпеня 1388 г. — жыдом Берасьцейскім і 18 чэрвеня 1389 г. — жыдом Горадзенскім. На падставе гэтых прывілеяў жыды атрымалі мяшчанскія правы. Яны мелі права даваць пазыкі пад застаў нярухомасьці, вясьці корчмы, адчыняць крамы, гандляваць гандлем пераносным на рынках і вуліцах, займацца рамесьніцтвам. Некаторыя жыды займаліся гародніцтвам і сельскай гаспадаркай.

Хутка ў жыдоўскіх руках апынуліся галоўныя грашовыя абароты. Цэлымі стагодзьдзямі выспэцыялізаваныя ў спэкуляцыі, гандлі, банкірстве, жыды ў нас у 15-ым веку сталіся фактычнымі ўладальнікамі багацьцяў у гарадох і галоўнымі

банкірамі. У іх руках была арэнда падаткаў і мытаў. Яны багаціліся на гоне й продажы алькагалёвага пітва, на нутраным і замежным гандлі. Нічога дзіўнага, што паны й баяры (шляхта) сталі глядзець на жыдоў заздросным вокам. Былі спробы адхіліць жыдоў ад збору дзяржаўных падаткаў і мытаў ды перадаць гэтыя становішчы адумыснымураднікам. Але ўраднікі не спраўляліся зь дзяржаўнымі запатрабаваньнямі на грошы, і ўрад В. Кн. Л. прымушаны быў зноў перадаць падаткі й мыты жыдом у арэнду. Жыдоўскія дзяржаўцы, дзяржаўныя запатрабаваньні на грошы выплачвалі з сваіх уласных капіталаў, а потым гэтыя пазыкі спаганялі з застаўных маёнткаў ды з арэнды падаткаў, мытаў ды іншых павіннасьцяў. Такім чынам жыды багаціліся некалькімі спосабамі: працэнтамі з пазыкаў, арэндай, гандлем і заставамі. Гэткі стан трываў аж да канца 15-га веку.

Казімір Ягайлаў, які так абвінавачваецца ў парушэньні вялікай нашай талеранцыі, фактычна быў найбольшым пратэктарам жыдоўства ў Літве. Жыды пры ім уладалі ня толькі дзяржаўнымі даходамі й грашавымі абаротамі, але пачалі займаць высокія становішчы ў гаспадарсьцьве. Нічога дзіўнага, што ён, паміраючы ў 1492 г. пакінуў Аляксандру шмат даўгоў, набраных у жыдоў. Спачатку ўсё йшло як і раней: Аляксандар сплачваў даўгі, аддаваў у арэнду падаткі й мыты; задоўжанасьць нарастала, а магчымасьць сплачваньня малела ў сувязі з падрыхтоўкай да вайны з Маскоўшчынай. І вось вялікі князь Аляксандар стаў на шлях эўрапейскіх гаспадарстваў, каб пазбыцца ад жыдоўскай залежнасьці. У 1495 годзе ён выдаў дэкрэт аб выгнаньні ўсіх жыдоў зь Вялікага Княства, каторыя ня прымуць хрысьціянства. Закон гэты толькі навонкі меў рэлігійную афарбоўку, а ў сапраўднасьці быў спробай канфіскаты вялікіх жыдоўскіх багацьцяў і дзяржаўных належнасьцяў. Жыды выганяліся ў Польшчу й там сяліліся ў малых мястэчках. Што гэта быў наступ на жыдоў чыста эканамічны, сьведчыць аб гэтым хуткае адкліканьне антыжыдоўскага дэкрэту. Вайна Літвы з Маскоўшчынай ад 1493 г. вымагала новых грошай. Скарб быў парожны. Неабходныя былі нутраныя гаспадарскія пазыкі, якія можна было атрымаць толькі ад жыдоў. Таму Аляксандар ў 1503 годзе зноў дазволіў жыдом сяліцца ў Літве ў тых месцах, дзе яны жылі раней, пры ўмове, што сваю ранейшую маемасьць могуць выкупіць ад сучасных дзяржаўцаў. Такім чынам жыды мусілі заплаціць за страчаную маемасьць. Апрача таго на жыдоў накладаўся абавязак выстаўленьня ў часе вайны 1000 коньнікаў.

Жыды вярнуліся ў Літву, выкупілі свае ранейшыя становішчы, а наступнік Аляксандра, Жыгімонт (Стары) стаўся іх вялікім пратэктарам.

Сумлеўна ці ўсе жыды вярнуліся ў Літву. Люстрацыя 1533 г. у Пінску сьцьвярджае 24 дымы жыдоўскія, люстрацыя 1566 — 43, люстрацыя 1567 г. у Берасьці — 85 дымаў. Відавочна, вярнуліся ў Літву пасьля 1503 г. жыды самыя багатыя.

* * *

У канцы 15 і на пачатку 16-га в. найбольш уплывовымі жыдамі ў вялікакняскім урадзе былі браты Езафовічы зь Берасьця, Абрам, Міхіль і Айзік. Яшчэ перад антыжыдоўскай уставай 1495 г. Абрам Езафовіч займаў становішча Ковенскага гараднічага. У мэтрыцы літоўскай пад гэтым годам (7 трав.) запісана: «тогож дня Абрагам городнічий ковенский делал лічбу у Вильні». Відаць, перад выездам у Польшчу, Абрам Езафовіч здаваў у Вільні справаздачу са сваёй дзейнасьці, як дзяржаўца Ковенскага мыта й іншых гаспадарскіх прыбыткаў. Гадоў 10 пасьля



гэтай запісі няма ніякага сьледу ў дакумантах аб Езафовічах. З гэтага можна меркаваць, што Абрам Езафовіч падпарадкаваўся антыжыдоўскаму дэкрэту й прабываў у Польшчы разам зь іншымі жыдамі. На пачатку 16 в., пэўне-ж, карыстаючы з акту 1503 г. аб дазволе жыдом зноў сяліцца ў Літве, Абрам Езафовіч зноў паклікаецца на высокія гаспадарскія становішчы. У мэтрыцы Літоўскай маем запіс пад 10 чэрвенем 1506 г. аб тым, што Абрам ужо быў «старастам места Смаленска й войтам Менскім», ды яму яшчэ перадавалася ў арэнду мыта Ковенскай каморы.

Крыху пазьней, іншым актам з 17 чэрвеня 1506 году Аляксандар надаваў яму за заслугі на «вечнасьць» маёнтак Вайдуны ў Віленшчыне. У прывілеі гаварылася: «калі цнотамі й заслугамі кажны зь сярэдняга стану ўзыходзіць на вышэйшую ступень, на каторай дае яшчэ большыя довады вернасьці да свайго ўладара й розуму ў выконваньні ягоных даручэньняў, таму мы, ацаніўшы верную, справядлівую й боззаганную службу дастойнага Абрагама Езафовіча, які ў часе нападу ворагаў на нашыя пагранічныя месты й гарадзішчы заўсёды нам служыў верна, не шкадуючы ні крыві ні жыцьця, хочам яму — вернаму слузе — даць узнагароду і ў будучыні яго ўчыніць яшчэ ахватнейшым і пільнейшым да нашай службы, дык даём яму маёнтак Вайдуны...» (Мэтр. Літ. кн. зап. 5, дня 17 чэрвеня 1506 г.)

Крыху пазьней, 3 ліпеня 1506 г. Аляксандар іншай граматай надаў яму часьць Раканціскай пушчы. (Мэтр. Літ. І.)

Так гойныя ўзнагароды Аляксандра Абраму Езафовічу стаяць у лучнасьці з выдайнай грашовай падтрымкай Езафовічам Аляксандра ў часе вайны з Маскоўшчынай.

Цікава адзначыць і тагачасную талеранцыю рэлігійную ды непраўдзівасьць погляду аб наварочваньні сілком пры Аляксандры на каталіцтва (маскоўская прапаганда адносна жонкі Аляксандра — Алены — дачкі Івана III). Вось-жа жыд Абрам Езафовіч пасьля свайго павароту ў Літву (пасьля 1503) прыняў праваслаўную веру. Калі-б быў які-колечы прымус, то прыняў-бы каталіцтва. Іншыя браты Езафовічы засталіся пры сваёй жыдоўскай веры.

Калі Абрам Езафовіч перайшоў на праваслаўе — ня маем дадзеных, але што перайшоў на праваслаўе, то гэта вынікае з дакуманту, выстаўленага мітрапалітам Кіеўскім Язэпам Солтанам у сьнежні 1511 году, дзе сказана між іншым: «прытымбыцьці дзяцей сваіх: Аўрама падскарбніка вялікага земскага, Івана Кошкі, акальнічага Смаленскага і г. д.» (Арх. Сб. док. Вільно, VI, ii). Пазьней род Абрамовічаў быў праваслаўны й перайшоў на каталіцтва ў канцы 18 веку.

* * *

Пасьля сьмерці Аляксандра, Жыгімонт (Стары) пацьвердзіў усе прывілеі й наданьні Абраму Езафовічу 23 ліп. 1507 году.

Вайна з Масквой (1507-1514) выпаласкала скарб Літоўскі. Галоўным банкірам стаўся зноў Абрам Езафовіч, якому Жыгімонт ужо ў 1507 годзе быў вінаваты каля 2000 коп грошаў літ. За гэта ён атрымаў у дзяржаву прыбыткі ад мыта й солі ў Коўні ды васковае мыта ў Смаленску (5 кастрыч. 1507). Спрытны жыд ужо за два месяцы выбраў свае 2000 коп грошаў ды яшчэ даў 500 коп гр. вялікаму князю як бонус за далейшае карыстаньне гэтымі прыбыткамі (акт з 30 ліст. 1507 г. у Горадні). Крыху пазьней, 20 студз. 1509 г., Жыгімонт аддаў яму ў дзяржаву мытню Менскую. У гэтым самым часе Абрам Езафовіч атрымаў у арэнду й Літоўскую

выбіванку манэты (канец 1508 г.). Такім чынам у руках Абрама Езафовіча апынуліся амаль усе ключавыя грашовыя пазыцыі В. Княства Літоўскага, пайменна мытні й біцьцё манэты. Цяпер ён пайшоў далей — сягнуў да пераняцьця ў свае рукі Літоўскага скарбу. Дзеля гэтага ў пачатку 1509 г. Абрам Езафовіч перад прыбыўшым у Вільню Жыгімонтам (Старым) абвінаваціў у супрацоўніцтве з Глінскім: Альбрахта Гаштаўта, ваяводу Навагрудзкага й падчашніка літоўскага, Федзьку Хрэбтовіча, падскарбніка земскага, Марціна Хрэбтовіча, канюшага літоўскага і інш. Распачалося сьледзтва, абвінавачаныя былі ўзятыя пад старожу, або асаджаныя ў Троцкім замку. Такім чынам Абрам Езафовіч стаўся міністрам скарбу Літоўскага — падскарбнікам вялікім.

Скарб быў парожны, але кемлівы жыд ведаў, што ня страціць на сваім высокім становішчы. Ён у чэрвені 1509 г. езьдзіў у Кракава, дзе падаў каралю рахункі аб выдачы са свае кішані на патрэбы В. Княства Літоўскага, згодна зь лістамі й інструкцыямі караля, — 5000 зал. і 809 коп гр. літ. Жыгімонт (Стары) дазволіў Абраму Езафовічу выбраць належнасьць з даходаў гараднічага Віленскага, мыта Віленскага, Берасьцейскага, Луцкага й Уладзімерскага. Абрам Езафовіч атрымаў таксама права на прывоз з заграніцы воску бязмытнага й іншыя прывілеі (29 чэрв. 1509).

Са свайго боку Абрам Езафовіч ахвяроўвае собскіх тысячу грыўняў срэбра на біцьцё літоўскіх грошай. Атрымаў ён таксама прывілей каралеўскі на двор гаспадарскі Грынкі й пустуючыя землі ў павеце Троцкім (25 ліп. 1509).

* * *

Панаваньне жыда, нядаўнага пярэхрыста Абрама Езафовіча на пасадзе падскарбніка земскага выклікала незадаваленьне літоўскіх магнатаў. Таму восеняй 1509 г. Жыгімонт (Стары) вызначыў падскарбнікам земскім Богуша Багавітыновіча, пісара В.К.Л. На гэтым становішчы новы падскарбнік прабыў толькі два месяцы: кастрычнік і лістапад 1509 г. ды выявіў недалужнасьць у грашовых справах. І вось Жыгімонт мог цяпер зноў супаставіць апэрацыйныя здольнасьці Абрама Езафовіча, як адзінага кандыдата на скарбніка, і на пачатку 1510 году ўжо настала вызначыў яго на вялікага падскарбніка земскага ў Вялікім К. Літоўскім. На гэтым становішчы прабыў ён да сваёй сьмерці ў 1519 годзе.

Як стаўленьнік каралеўскі і як жыд, Абрам Езафовіч быў добрым агентам караля й польскіх інтарэсаў у Літве супраць сэпаратызму літоўскіх паноў. Абрам Езафовіч выявіў сваю служальчасьць прапольскай палітыцы зараз на пачатку свайго ўрадаваньня, выступаючы па старане караля на сэйме ў Пятркове (1510), каб В.К.Л. і Прусы нясьлі супольна выдаткі й Польшчы (Вол. лег. І, 366).

* * *

Ня гледзячы на прыняцьце праваслаўя, Абрам Езафовіч застаўся надалей жыдоўскім патрыётам і кагальным жыдам. Са сваімі братамі Міхілям і Айзікам утрымліваў самыя блізкія адносіны, дзяліўся зь імі карысьцямі, купляў ад іх дарагія прывазныя матэрыялы. Жыгімонт (Стары) не бяз прычыны Абрама Езафовіча стаўся пратэктарам жыдоў у Літве. Ён у 1514 г. звольніў жыдоў ад абавязку выстаўленьня 1000 коньнікаў на вайну ды даў жыдом права вольнага гандлю й вы-



конваньня рамясла, а брата Абрамавага Міхіля вызначыў «старэйшым» над усімі жыдамі з прывілеем самаўраду й судовай юрысдыкцыі (Мэтр. Літ. кн. зап. 9, дак. 500 з 21 сакавіка 1514 і кн. зап. 7, 585 з дня 27 лютага 1514 г.).

Пры такіх умовах казачна багацее Абрам Езафовіч, падскарбнік літоўскі. Са сьнежня 1510 году ён купляе ад Сапегі маёнтак Новы Двор, 18 сак. 1511 г. атрымлівае права на дом у Вільні. Таго-ж самага году кароль на Берасьцейскім сэйме (9 чэрв. 1511) пацьвердзіў Абраму Езафовічу куплю маёнтку Жыраслаўкі ў Горадзеншчыне ад Івана Кабелкі за 100 коп гр. літ. 26 кастр. 1514 году кароль пацьвярджае ягоную куплю хвальварка каля Менску.

Аб ягоным багацьці можа сьведчыць і аграмадная сума 10.000 чырвонцаў вугорскіх, пазычаныя Жыгімонту пад заставу места Коўні й гаспадарскага двара Румшышкі (Мэтр. літ. кн. 1-2, 92 акт з 1514 г.).

5-га студзеня 1515 г. Абрам выкупіў ад Івана Сапегі, ваяводы Падляскага, войтаўства Менскае ды атрымаў на гэта каралеўскую грамату. 12 ліпеня 1515 г. Абрам Езафовіч за нявыплачаную пазыку караля, становіцца ўладальнікам Ковенскага староства. У 1517 г. кароль зноў пазычае ад Абрама 3000 коп гр. літ., аддаючы ў арэнду мытню ў Берасьці (грамата з 1519 г.). У 1519 годзе кароль набірае ў Абрама собаляў, хутраў, куніцаў, баброў на суму 3217 коп гр. літ. Меў Абрам Езафовіч таксама маёнткі й староства Салецкае ў Польшчы, відавочна здабытае пазыкамі каралю.

* * *

Паміраючы Абрам Езафовіч запісаў у Берасьці ў 1519 годзе свайму сыну Васілю — вайтоўства Берасьцейскае, двары Жыраслаўку й Гладковічы, дом у Вільні й 10000 зал., убясьпечаных местам Коўняй і гаспадарскім маёнткам Румшышкі. Другому сыну Канстантыну Абрам запісаў Новы Двор, маёнтак Грынкова, хвальварак пад Вільняй, дом у Вільні й 7000 коп гр. літ. Сваёй жонцы Ганьне запісаў 1000 коп гр. літ., усё серабро й прыбыткі з маёнткаў сына Канстантына. Дачцы сваёй Марыі апрача вясельнай выправы, — прыбыткі з маёнткаў сына Васіля, а браты Езафовічы павінны ёй у прыданае выплаціць па 200 коп гр. Экзэкутарамі свайго тэстаманту Абрам вызначыў Альбрахта Гаштаўта, ваяводу Троцкага, і Юрага Ільніча, маршалка надворнага. Тэстамант падпісалі: жонка Ганна, браты Міхіль і Айзік, архімандрыт сьв. Тройцы ў Вільні, настаяцель сьв. Духа й 2 каталіцкія сьвятары зь Берасьця (28 верасьня 1519 г. у Берасьці).

Пасьля сьмерці Абрама Езафавіча, вялікім падскарбнікам Літоўскім стаўся той няўдалы Богуш Багавітыновіч (ад 10 травеня 1520). Відавочна, не знайшлося другога такога жыда, як Абрам Езафовіч, а Богуш Багавітыновіч не такі ўжо быў няўдольны, як здавалася-б, але адсоўваючы яго ў 1509 годзе ад ураду літоўскага падскарбніка, кароль кіраваўся выгадамі, якія мог мець ад багатага жыда, а чаго ня мог даць Багавітыновіч.

* * *

Браты Езафовічы Міхіль і Айзік карысталіся таксама вялікімі прывілеямі. Ад 1513 году яны дзяржавілі мытні ў Берасьці, Луцку і Уладзімеры. У 1514 годзе Міхіль быў назначаны Жыгімонтам «старэйшым» над літоўскімі жыдамі. На пад-

ставе гэтага прывілею браты Міхіль і Айзік абвінавацілі старасту, намесьніка й бурмістра ў Берасьці (1518) за тое, што жыд быў асуджаны ў берасьцейскім судзе, а не ў жыдоўскім.

Міхіль дзяржаў апрача мытні ў Луцку і Уладзімеры, карчмы, мыта й падаткі ў Клецку, карчмы ў Магілеве й Віцебску. У 1523 годзе за суму 3000 коп у год узяў мытню Драгічынскую, Горадзенскую, Камянецкую, Ласіцкую, Мельніцкую, Бельскую, Луцкую і Уладзімірскую. Амаль усе нашыя паны сядзелі ў кішані Міхіля. У 1525 годзе ён атрымаў мытню Берасьцейскую й шляхоцтва з гэрбам Лелівай. Гэта быў першы выпадак, калі неахрышчаны жыд стаўся шляхціцам. Абрам такім быў, але ён фармальна быў хрысьціянінам.

Дык вось тая «неталяранцыя» ўраду Вялікага Кн. Літоўскага адносна інаверцаў, а ў самай справе поўная залежнасьць у гаспадарчых адносінах ад жыдоў ды іншых патэнтатаў.

Літ.: Мэтрыка літ. кн. запісаў; Бершадский, Документы и регестры к истории литовских евреев, СПБ 1882; І. Вольф, Жыд міністрам караля Жыгімонта (папольску), Кракаў, 1885.

---

Мікола **ЧАРНЯУСКІ**

**Ёсьць край...**
**Ён там за сінім акіянам,**
**Туды дарогі**
**Сьветлыя бягуць.**
**Яму душой на ўсё жыцьцё**
**адданы,**
**Жыць без яго**
**Ніколі не змагу.**
**Вачмі вазёр,**
**крыніцаў**
**і рачулак**
**Ён на мяне і ўдзень**
**і ўноч глядзіць.**
**Бары яго плячыстыя прачула**
**Са мной гатовы карагод**
**вадзіць.**
**Ён верасам сінее на узьлесьсях,**
**Ён — край блакіту, сонца,**
**чысьціні.**
**Ён напрадвесьні**
**Жаўруковай песьняй**
**У сэрцы маім радасным зьвініць.**
**Улетку — коласам,**
**А ўзімку — завірухай**
**Ён у бяскрайнім полі**



**шалясьціць.**
**І люба мне**
**Яго гамонку слухаць,**
**І люба мне**
**Яго шляхамі жыць.**
**Хай іншым сьняцца**
**Пальмы і ліяны,**
**Хай іншых моры**
**у палон бяруць,**
**Я-ж краю аднаму**
**навек**
**адданы,**
**Той край —**
**Мая радзіма —**
**Беларусь!**

---

Я. Попка

## РАЗЬБІТАЯ СКРЫПКА

У пагодны, ясны, чэрвеньскі дзень ішоў я па вуліцы аднаго нямецкага гораду ды прыглядаўся да архітэктуры старых будынкаў, да вітрынаў у якіх крамнікі выхвалялі свой тавар на ўсе лады, да нязнаных, чужых мне тут людзей на даволі рухлівай вуліцы...

Сярод гэтага чужога мора людзей я быў зусім адзінокі. Ішоў я са сваімі думкамі, падсьведама нечага шукаючы. Раптам унеспадзеўку пачуў я гук трывогі ды пабачыў, як бягуць недзе людзі, затрымоўваюцца самаходы, трамваі...

Мяне гэта зацікавіла, і я сам пайшоў у тым кірунку крыху шпарчэй. Пакуль я дайшоў, на вуліцы назьбіралася так шмат людзей, што ісьці далей было нельга — людзі й машыны запрудзілі ўсю вуліцу.

— Што сталася? — запытаўся я суседа, які таксама пхаўся ў натоўп.

— Ня ведаю, — адказаў ён, — нейкі, відаць, выпадак.

— Трамвай пераехаў некага, — сказаў другі.

Першае зацікаўленьне задаволенае і я перастаў пхацца далей у натоўп, адступіўся, узьлез на нейкі ганак, а ў міжчасе паліцыі ўдалося навесьці такі-сякі парадак, адпрасіць цікавых ад месца выпадку.

Цяпер я мог ужо пабачыць чалавека, які ляжаў тут-жа пад трамваем. На рукаве ў яго была жоўтая навязка з чорнымі знакамі. — Нічога дзіўнага, сьляпы... — падумаў я, і хацеў ужо пайсьці далей, калі ў гэты час адыйшоў кандуктар убок і я пабачыў, што побач забітага ляжыць разьбітая скрыпка. Нешта невытлумачальнае штурхнула мяне пачакаць, паглядзець і распытацца... Якраз у гэтую хвіліну заўважыў я, як нейкая жанчына паказвае рухам рук і галавы на забітага й расказвае нешта другой. Я зыйшоў з ганку, прабраўся паўз натоўп і стаў побач жанчын ды пачаў прыслухоўвацца да іх гутаркі.

— Я ня дзіўлюся гэтаму, — гаварыла адна, — што ён разьбіў скрыпку й пакончыў

самагубствам. На яго месцы... Ён яе так кахаў... Месяц назад і яна якраз на гэтым месцы кончыла сваё жыцьцё трагічна. Тады яго ўсе пакінулі, бо каму ён, сьляпы, патрэбны? І яе былі бацькі выгналі з хаты... Ён гэтак цудоўна йграў ,ня дзіва, што яна пайшла за ім...

— Нейкі трагічны раманс, — падумаў я, ды пачаў з большай ўвагай прыслухоўвацца. Але, на вялікі жаль, жанчына перастала расказваць, відаць, гэта былі нейкія знаёмыя й ведалі ўсю гісторыю ды толькі ў скарочаньні прыпаміналі яе цяпер. Я падыйшоў бліжэй да жанчын, перапрасіў іх ды запытаўся:

— З вашай гутаркі я зразумеў, што вы ведаеце гэтага чалавека, які загінуў у выпадку...

— Ведаю, — адказала адна. — Ён жыў у суседзтве. Ён пакончыў самагубствам...

— Самагубствам? — зьдзівіўся я.

— Самагубствам, — адказала жанчына й з увагай ды цікавасьцяй стала аглядаць мяне й нарэшце, як-бы наважылася.

— Калі вас цікавіць, дык зайдзіце калісь да мяне і я вам усё раскажу, — запрапанавала яна. — Вы, відаць, чужынец.

Жанчына сказала свой адрас і вызначыла дзень. За яе ветлівасьць я шчыра падзякаваў і разьвітаўся.

За хвіліну прыехала чорнае аўта з крыжам, забрала забітага і ад'ехала. Паліцыянт узяў разьбітую скрыпку й кінуў яе пад лазовы корч, які тырчаў на развалінах калішняга дому. Людзі разыйшліся, і на вуліцы ўзнавіўся нармальны гарадзкі рух.

Я яшчэ крыху пастаяў, падумаў ды таксама падаўся сваёю дарогаю, але думка аб гэтым здарэньні не пакідала мяне, і я зь нецярплівасьцю пачаў чакаць дня сустрэчы зь незнаёмай жанчынай.

Цікавасьць мая была так вялікай, што ў той дзень я заранЬне адшукаў вуліцу й дом дзе яна жыла, ды як толькі надыйшоў вызначаны час зазваніў у хату. Надзіва, жанчына была вельмі ветлівая да мяне — чужынца, пазнаёміла са сваёй сям'ёю: мужам, маткай і дзецьмі. І я адразу пачуўся быццам даўно быў зь імі знаёмы.

— Як вам ведама, — зьвярнуўся я да гаспадароў хаты, — я прыйшоў даведацца пра таго чалавека, які ўчора так трагічна загінуў.. Вы мне абяцалі расказаць пра яго.

— Так, я вам раскажу, — сказала жанчына. — Я ведала яго й ведаю шмат пра ягонае жыцьцё. Праўда, сумнае было ягонае жыцьцё, але нічога ня зробіш, я буду гаварыць так, як яно было, — дадала гаспадыня.

— Калі ласка! Гаварыце так, як было ў сапраўднасьці, мяне гэта надта цікавіць, — папрасіў я.

—Я пазнала, што вы чужынец, а кажнаму чужынцу я спаўчуваю, бо ведаю, што значыць быць без свае хаты, без сям'і, без сваіх...

— А як вы мяне пазналі, па мове? — пацікавіўся я.

— Больш па гэтым значку, — сказала яна паказаўшы на значок Пагоні, які я заўсёды насіў на левым баку грудзей.

— Якуб Бандарэвіч таксама насіў такі значок.

— Хто такі Якуб Бандарэвіч? — перапытаў я.

— Той, што ўчора так трагічна загінуў, — адказала гаспадыня.

Праз маё цела, быццам, прайшоў электрычны ток, я ўвесь уздрыгануў ад думкі: «Ён-жа быў Беларусам».



Гаспадыня гэта заўважыла й мяне перапытала:

— Дазвольце ведаць, скуль вы родам?

— З Брэсьць-Літоўска, — адказаў я, каб яна лепш зразумела.

— Ён зь Пінска быў, — хацела мяне ўспакоіць.

— Мой суродзіч! — зацеміў я.

— А ці Пінск недалёка ад вас? — перапытаў яе муж.

— Не, недалёка, — адказаў я.

— Там шмат балотаў... — дадаў гаспадар.

— Шмат, — кажу я. — Пінскія балоты... Палесьсе...

— Вось і Якуб Бандарэвіч стуль родам быў, і часта, вельмі часта ўспамінаў свой край, які ён моцна любіў, аб якім заўсёды пяяў песьні ды дзіўныя мэлёдыі выгрываў, якія нас тут усіх захаплялі...

— Раскажыце, калі ласка, — папрасіў я, — усё, што вы ведаеце пра гэтага чалавека.

— Я раскажу ўсё, — што толькі ведаю, — згадзілася гаспадыня. — Я вельмі цешуся, што вас спаткала. Я вам раскажу, і мо, калі вы вернецеся на сваю Бацькаўшчыну, заедзеце ў Пінск, адшукаеце ягоных сваякоў і раскажаце ім пра яго шчасьце й гора, што ён пераважыў тут у Нямеччыне. А пераважыў ён многа, бедны, — уздыхнула жанчына. — Служыў ён у беларускім войску. Па вайне застаўся ў нашым горадзе.

— А як вы зь ім пазнаёміліся? — пацікавіўся я.

— Яны тут стаялі, — паказала яна рукой праз вакно на вольны пляц, — і неяк з мужам пазнаёміліся. Заходзіў да нас у гэты дом, і нават ня раз сядзеў на гэтым крэсьле, на якім сядзіцё вы... Пасьля ён жыў тут у лягеры, ад нас недалёка й часта заходзіў да нас — гандляваў з мужам. Ён прыносіў нам нешта зь ежы, а мы яму даставалі таксама тое-сёе. Але гэтак нядоўга было: нехта прынёс у лягер гарэлкі, але, як аказалася пазьней, гэта ня была праўдзівая гарэлка, гэта быў драўляны сьпірт. Адзінаццаць чалавек, пераважна расейцаў, тады затруілася гэтым сьпіртам, у тым ліку і Якуб. На яго шчасьце, ці няшчасьце, яго ўдалося адхадзіць, але ён застаўся сьляпым. Шкада нам было яго, бо-ж быў такі добры, інтэлігентны, — уздыхнула жанчына.

— Пазьней людзі зь лягера пачалі разьяжджацца ў розныя краіны, а яго, як сьляпога, ніхто не захацеў прыняць, хоць сябры яго стараліся. Такіх, заходнія краіны не патрабавалі, хоць ён быў надзвычайна здольным, але працаваць фізычна паводля вымогаў ня мог. Іграў толькі на скрыпцы... Пасьля й сябры пра яго забыліся, бо, ведаеце, калі чалавек збагацее, дык і пра сяброў сваіх забываецца... Гэтак ужо на сьвеце водзіцца... Жылося яму вельмі цяжка. Ён часта прыходзіў да нас, калі была ясная, добрая пагода...

— Сам прыходзіў, ці яго нехта прыводзіў, — перапытаў я.

— Сам прыходзіў. Калі была ясная, добрая пагода, як учора ці сёньня, дык мог сам прыйсьці, — бачыў тады, як праз імглу. І вось, калі ад яго ўсе адцураліся, ён папрасіў мужа, каб ён памог купіць скрыпку. Скрыпку купілі. Мы думалі, што ён на заработкі яе купляў, для пражыцьця, але аказалася, што не...

— Каб выліць боль свае душы, — гаварыў нам Якуб, — каб лягчэй было на сэрцы.

— І пачынаў ён іграць, — выліваць свой боль. Іграў ён так прыгожа, з такім захапленьнем, што сапраўды пераліваў сваё гора ў струны скрыпкі, а струны гэты боль перадавалі слухачу з такой чуласьцю, што людзі плакалі... затрымоўваліся каля




© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2013

ягонага вакна й гадзінамі слухалі. Скуль ён браў гэтыя песьні й мэлёдыі мы ня ведаем. Па нотах іх ня чытаў, бо-ж ня бачыў, дый нотаў ён ніякіх ня меў...

— З глыбіні сэрца, зь ягонае душы ліліся гэтыя мэлёдыі, — заўважыў гаспадар.

— Людзі так палюбілі яго песьні, што пачалі кідаць праз вакно яму грошы, каб толькі іграў ім. Пасьля некаторыя пачалі самі прыходзіць да яго ды прасіць, каб ён паіграў ім. Асабліва тыя, якія мелі нешта цяжкае на сэрцы, хацелі зь ягонаю прыгожаю мэлёдыяй зьмяшаць свой собскі боль, ды хоць крыху асаладзіць сваё жыцьцё. Мы пыталіся яго, скуль ён браў гэтыя песьні й мэлёдыі, а ён са сьмехам адказваў:

— Мама навучыла мяне іх у калысцы. Гэтыя мэлёдыі — гэта доля майго народу.

— І сапраўды, — дакінуў яе муж, — у ягоных песьнях, у ягоных мэлёдыях было нешта такое, што адбівала як у люстры шчасьце й нядолю перажытага. Сярод іх былі такія вясёлыя, што слухачоў у скокі парывалі, асабліва нейкі танец, здаецца, Лявоніхай званы, або зноў такія сумныя, такія задушэўныя, што нат мужчыны плакалі.

— І вось, у гэтыя песьні й мэлёдыі закахалася адна маладая дзяўчына, студэнтка кансэрваторыі. З часам яна нават студыі пакінула, бо казала, хацела быць блізка каля такога няспатыканага ў яе жыцьці скрыпача.

— І з гэтага ўсяго выйшла вялікая няпрыемнасьць... і мяне нават туды ўмяшалі... Ня ведаю, ці гаварыць вам пра гэта, — сказала гаспадыня й паглядзела на мужа.

— Гаварэце, калі ласка, гаварэце, — папрасіў я.

— Вялікая няпрыемнасьць была з усяго гэтага. Нейкія палякі ўкралі яго скрыпку й прадалі нейкім спэкулянтам. Якуб моцна засумаваў па скрыпцы, бо ня меў на чым іграць. Студэнтка падаравала яму сваю... і, відаць, адначасна закахалася ў яго і ягоныя мэлёдыі. Бацькі яе былі супраць гэтага яе захапленьня, і моцна загневаліся на яе. Але гэта не памагло. Яна пакінула бацькоў і перайшла жыць да нас. Ад нас яна кажны дзень хадзіла слухаць песьні й мэлёдыі Бандарэвіча. Кончылася тым, што яны пажаніліся. На маю думку іхнае сяброўства было шчырае й глыбокае. Уся бяда была толькі ў тым, што ён быў сьляпы. Але Рэгіна не паглядзела на гэта й выйшла за яго замуж. Тады бацькі зусім яе выракліся. Тымчасам Якуб пачаў скрыпкаю зарабляць сабе на пражыцьцё. Часта са скрыпкаю ён выходзіў у парк, пасьля пачалі яго запрашаць у рэстараны. Выглядала, што жылося ім нават зусім добра. Яны моцна кахаліся, і так жылі два сэрцы.

— Рэгіна сьпісвала ягоныя мэлёдыі на ноты й старалася выдаць гэта друкам, але незадоўга перад яе сьмерцю нехта ўкраў у іх і гэта. Такім чынам, відаць, загінуў гэткі вялікі скарб ягонае душы...

— Як яна загінула? — запытаўся я.

— Ды вось так. Яна вадзіла яго, як сьляпога на працу. Аднаго разу, падчас манеўраў амэрыканскага войска, нейкі чорны салдат пераехаў яе, як яны пераходзілі вуліцу.

— Такая неасьцярожнасьць! — сказаў я з пачуцьцём.

— Чорны, як чорны, ехаў як дурны. Яна ратавала свайго Якуба, каб яго не пераехалі... Яго ўратавала, а сама загінула, — узбуджана гаварыла фраў Вэбэр.

— Бедны Якуб, колькі ён перажыў гора! Ён два месяцы хварэў пасьля гэтага выпадку, а калі сабраўся крыху зь сіламі, дык вычакаў добрую пагоду — ясны дзень, пайшоў на тое самае мейсца, дзе так трагічна зьгінула ягоная жонка і... кінуўся пад трамвай. Я разумею ягоны боль, — яны-ж так згодна жылі, кахаліся...



— Усе пакінулі яго, — расказвала далей фраў Вэбэр, — бо каму-ж патрэбны сьляпы чалавек? Суродзічы таксама пакінулі яго, так ужо водзіцца на гэтым сьвеце, — так у вас, так і ў нас. Але вось, знайшлося добрае сэрца, якое яго пакахала, ацаніла ягоны талент, ягоны скарб, які насіў ён у сваім сэрцы й душы, пакінула свой дом, пакінула бацькоў, пакінула навуку ды пайшла за ім, сьляпым, і гэтак жылі шчасьліва некалькі гадоў.

— А дзяцей не засталося? — спытаў я.

— Яна была цяжарная... і гэтак загінула ўсё, і таму ён меў гэткі вялікі боль. Можа, каб было дзіця, дык Якуб для дзіцяці застаўся-б жыць.

— Ах, як шкада, што я ня ведаў усяго гэтага раней, пайшоў-бы хоць правесьці яго на вечны супакой.

— Я была й зложыла вянок на ягонай магіле, — адказала фраў Вэбэр, — і ня толькі сама, але з мужам і дзецьмі. Яго пахавалі каля яе магілы, я сама пра гэта прасіла.

— Я хацеў-бы наведаць ягоную магілу, — папрасіў я.

— Заўтра нядзеля, пойдзем разам, пакажу, — згадзілася фраў Вэбэр.

— Заходзьце да нас перад абедам, — сказаў гаспадар. — У нас паабедаеце й пойдзем разам на магільнік. Нябожчыкі часта хадзілі з намі на гуляньне.

Падзякаваў я шчыра сям'і Вэбэр за гасьціннасьць, за ветлівасьць, разьвітаўся й выйшаў на вуліцу.

Наступнага дня пайшоў я зноў да Вэбэраў. Прынялі яны мяне ветліва й гасьцінна. Па абедзе пайшлі мы грамадою на магільнік і занесьлі вянок, які я спэцыяльна прыгатаваў з нацыянальнымі беларускімі йстужкамі. Сям'я Вэбэраў занесла ад сябе вязанку кветак. Палажылі мы гэта на сьвежай магіле Якуба побач Рэгіны. Мы доўга стаялі над іхнымі магіламі, успаміналі й нават заплакалі. Зь вялікім болем расставаўся я з магілай земляка, якога ня ведаў і вельмі шкадаваў, што хоць ў апошнюю хвіліну, як ён ляжаў на вуліцы, не прыглядзіўся бліжэй, не даткнуўся ягонага цела, ягонай рукі.

З магільніка пайшоў я яшчэ раз на месца выпадку, адшукаў ягоную разьбітую скрыпку, нацягнуў неяк крыху струны й занёс яе на іх магілы. Падуў вецер... і паняслася нейкая ціхая, дзіўная мэлёдыя аб жыцьці-быцьці няведамага нам музыкі, аб ягонай сямейнай трагэдыі, аб усім няшчасьці...

Апошнімі гадамі на эміграцыйным беларускім рынку зьявілася шмат цікавых кніжак. Дзеля ўліку новых выданьняў уводзім гэтта разьдзел:

## НОВАЕ НА КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

**Акула, Кастусь. Гараватка.** Раман. Кніга 3-цяя.
Таронта, Выд. «Пагоня», 1981. 286 б.

Апошняя кніжка трылёгіі мае назоў «Беларусы, вас чакае зямля». (Першыя дзьве кніжкі: «Дзярлівая птушка», 1965 і «Закрываўленае сонца». 1974). У гэтай завяршальнай кнізе апісваецца лёс герояў падчас Другое Сусьветнае вайны; іх прыватныя ды агульна-беларускія праблемы.

**Sadoŭski, John. A history of the Byelorussians in Canada.**
Belleville, Ont., Mika Pub. Co., 1981. 148 p.

Першая ў сваім родзе кніга пра гісторыю Беларусаў у Канадзе нябожчыка Янкі Садоўскага. Пасьля кароткага ўступу, даволі абшырнай агульнай інфармацыі пра Беларусь, падаецца гісторыя беларускай эміграцыі, расьсяленьне беларусаў у Канадзе, грамадзкае, рэлігійнае ды культурнае жыцьцё сучаснай беларускай калёніі. Кніга мае 6 разьдзелаў зь бібліяграфічнымі нататкамі да кажнага разьдзелу ды агульнай бібліяграфіяй прыканцы. Шмат ілюстрацыяў.

**Салавей, Алесь. Нятускная краса.** Збор твораў.
Нью Ёрк - Мэльбурн, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, 1982. 372 б.

Зборнік вершаў нябожчыка Алеся Салаўя ўключае ў сябе ўсе яго раней друкаваныя ды творы нідзе дагэтуль не друкаваныя. Абшырны крытычны артыкул Ант. Адамовіча ды бібліяграфія твораў Салаўя й твораў пра яго дапаўняе гэтае прыгожае ілюстраванае выданьне БІНіМ'у — другое ў сэрыі.

**Kipel, Vitaŭt. Byelorussian Americans and Their Communities in Cleveland.**
Cleveland, Cleveland State University, 1982. 184 p.
(Cleveland Ethnic Heritage Studies)

Манаграфія пра Беларусаў Кліўленду зьявілася ў сэрыі «Вывучэньне этнічнае спадчыны Кліўленду», якую выдае Кліўляндзкі Штатны Унівэрсытэт. Уступ да кнігі напісаны прафэсарам Томам Бэрдам. Найперш падаецца абшырная інфармацыя пра беларусаў і Беларусь з этнаграфічнай мапай Беларусі ды інфармацыя пра беларускую эміграцыю наагул.

Беларусы ў Кліўлендзе, іх арганізацыі , ды царкоўнае, грамадзкае й культурнае жыцьцё разглядаюцца вельмі дэталёва й грунтоўна. Агульная інфармацыя пра нацыянальныя сьвяты, беларускія народныя звычаі, касьцюмы, народнае мастацтва, беларускія стравы падаецца ў разглядзе жыцьця беларускай калёніі. Кніга багата ілюстраваная й мае добра ўкладзеную бібліяграфію.

**Янка Купала і Якуб Колас,** 1882 - 1982. Вянок успамінаў пра іх.
Укладальнік і рэдактар А. Калубовіч.
ЗША, 1982. 81 б.

Успаміны сустрэчаў, знаёмстваў ды паасобных эпізодаў з жыцьця Купалы й Коласа пісаныя сябрамі-пісьменьнікамі ці проста сябрамі паэтаў, як Мікола Шыла, Аўген Калубовіч, Масей Сяднёў, Мікола Шчаглоў ды інш. Успаміны ў большыні былі друкаваныя ў беларускай эміграцыйнай пэрыядычнай прэсе. Артыкулы Іны Рытар «На суд гісторыі» і «Якуб Колас» друкуюцца ўпяршыню.

**Галяк, Леанід. Успаміны.** Кніга 1-ая.
ЗША, Выдавецтва «Летапіс», 1982. 248 б.

Першая кніга ўспамінаў нябожчыка Л. Галяка пакрывае пэрыяд ад 1910 да 1944 году. Яскрава апісанае маленства, школьныя ды студэнцкія гады ў Вільні, судовая практыка ды Менскі пэрыяд ад верасьня 1941 да чэрвеня 1944 году. Кніга ілюстраваная партрэтамі ды груповымі здымкамі.



Васіль Сініца

# МАЁ МЯСТЭЧКА

## (УСПАМІНЫ)

працяг

У аднэй з Глыбоцкіх цукерняў была кэльнерка Тося. Апрача зграбнай фігуркі й даволі прыгожага тварыку з задзёртым носікам, яна нічым больш асабліва не вызначалася. Фаховыя-ж ды іншыя веды, здаецца, канчаліся на тым, каб зь мілай усьмешкай падаць наведвальніку кубак кавы ці нешта салодкае. Штопраўда, яна яшчэ вельмі ўдала ўмела адыходзячы ад століка паматляць накрахмаленымі какардамі туга завязанага хвартушка. Што-ж датычыць розуму, то калі-б параўняць яго да курынага, дык курыца напэўна-б пакрыўдзілася. Дык вось гэтая Тося можа была-б кэльнеркаю яшчэ доўгі час, каб ня звычайны прыпадак. Неяк у цукерню зайшоў пан маёр Фрэй. Пабразгаў шабляю, пазваніў шпорамі, выпіў кубак кавы й на разьвітаньне ўшчыпнуў Тосю за ружовую шчочку. Неўзабаве пасьля гэтага Тося аказалася ў Лужацкай гміннай канцыляры й то за асобным сталом, на якім красавалася дошчачка з напісам: «Рэфэрэнт для спраў млодзежы». Ведама, што ніякіх справаў моладзі Тося не палагоджвала, дый не магла палагоджваць, бо ўрадавала за гэтым сталом толькі да вечара. Раніцай наступнага дня Тося перайшла ў кабінэт пана маёра. На стале засталася толькі сіратлівa перакрыўленая дошчачка, якая абвяшчала, што тут калісьці сядзела Тося. У тым-жа больш-менш часе кравец Нахман, які лічыўся найлепшым вайсковым краўцом у мястэчку, атрымаў ад пана маёра замоўленьне на жаночы вайсковы ўніформ. Калі гэты ўніформ быў гатоы, і трэба прызнаць, што пасаваў на Тосю як уліты, адбылося афіцыяльнае прымерваньне спалучанае са скромнай вайскова-цывільнай цырымоніяй. Пасьля таго, калі ўсе гмінныя ўрадаўцы зыйшліся ў шэфавым кабінэце, маёр пасьля кароткай, гарачай прамовы аб польскай «спусьцізьне» *) тут на крэсах і аб абавязку кажнага добрага паляка прывіваць тут польскую культуру, абвесьціў, што з гэтага поваду ён надае паньне Антаніне Антковяк рангу паручніка, і ў доказ гэтага ўласнаручна прышпіліў да яе пагонаў паручніцкія зоркі й звонка па жаўнерску цмокнуў яе ў абедзьве шчакі. Урадаўцы, ведама, цалавацца не пасьмелі, задаволіўшыся толькі грацуляцыямі й пажаданьнямі.

Цяпер ужо да абавязкаў навасьпечанай «пані паручнік» дайшоў яшчэ новы, — асыставаць пану маёру ў часе ягоных парадаў-спацыраў па вуліцах мястэчка, якія адбываліся амаль кажнага тыдня. У часе гэтых парадаў ім задзёрыста салютавала паліцыя й мясцовая басота зь якой Фрэй стварыў «стжэльцаў», купляючы ім за гмінныя грошы шапкі з польскімі «ажэлкамі». Парады гэтыя адбываліся ў больш-менш такі спосаб: па ходніку важна задзёршы галаву крочыў пан маёр. Левай рукой ён падтрымоўваў сваю аграмнястую шаблю, а правай адказваў на салюты. Каля яго забягаючы то з аднаго то з другога боку мітусілася Тося, таксама тыцкаючы сябе двума пальцамі недзе ў ваколіцы цемя ці шчакі, што мела азначаць салютаваньне. За якіх 10-15 мэтраў ззаду за панствам, памаленьку ехаў гмінны

*) Спусьцізна, — гэта спадчына.

фурман. Калі пан маёр пачуваўся стомленым, ён падаваў фурману знак рукою й той шпарка пад'яздждаў да ходніка й «вайсковыя ўлады» заняўшы месца на брычцы адпраўляліся туды, куды мелі заплянавана.

Неўзабаве пан маёр з паняй паручнік заарандавалі для сябе прыгожы, як цацку, домік былога сяржанта КОП, Хмялеўскага й перанесьліся туды на сталае жыхарства. Зразумела, што арэндная аплата выплачвалася з гміннай касы. Акрамя таго ў новай рэзыдэнцыі панства адбываліся даволі частыя шумныя пачастункі на якіх прысутнічала ўся мясцовая эліта. На якія сродкі ўладжваліся гэтыя пачастункі судзіць не бяруся, але аднак і бяз іх гміне хапала выдаткаў. Ну, бо й палічыце: аплата за памешканьне для пана маёра, абмундзіраваньне для пані паручнік, месячная аплата ёй «за выкананыя абавязкі», дый хто іх усе пералічыць! А падаткі ў форме «надзвычайных», «вырувнаўчых» дый сам Бог толькі ведае якіх яшчэ ўсё расьлі й расьлі. Штопраўда й пані паручнік мела абавязкаў апрача афіцыяльных хоць адбаўляй, бо выконвала таксама абавязкі й «пані вуйтовэй», таму што не хацелася пану маёру цягнуць сапраўдную вуйтовую аж на нейкія там крэсы.

Такі стан трываў нешта больш году й вынікі яго пачалі адчуваць ня толькі «цёмныя масы», але й «спольшчаныя масы», бо розныя падаткі білі па кішэні таксама і іх. І ня было ніякае надзеі, што гэта хутка скончыцца, бо апісваныя падзеі адбываліся якраз у самы росквіт «бацяншчыны», калі ўся Віленшчына была пад панаваньняў, бацянскіх, музычкаў, фрэяў, фіялкоўскіх ды іншых, якія лічылі крэсы адным маёнткам, а насельніцтва амаль-што сваімі парабкамі- прыгоньнікамі.

Гэтыя парадкі ў Лужках толькі хіба адзін Др. Шыран прыймаў з гумарам, і загадкова ўсьміхаючыся казаў: Прыйдзе яшчэ ліхая гадзіна й на Фрэя, толькі трэба пацярпець да пары, да часу, бо без пары нічога ня робіцца.

І ліхая гадзіна на пана маёра разам з паняй паручнік нарэшце надыйшла. На кароткі час яны былі зьніклі з Лужацкага далягляду. Штопраўда пазьней ізноў паказаліся, але ўжо ані жыхарам мястэчка, ані гміне не загражалі. А справа склалася наступна: Успамінаныя ўжо Бэркам вёскі Дварнова й Юркава ня гледзячы на тое, што былі на 100% каталіцкія й залічвалі сябе да шляхты, ад няпамятных часоў судзіліся паміж сабой за нейкі кавалак выгану абшарам каля паўтара гэктару. Цяжка сказаць колькі грошай яны выдалі, і колькі папсавалі сабе нэрваў абзываючыся ўзаемна markdown рознымі абразлівымі мянушкамі. Часамі гэтае змаганьне даходзіла й да калоў. Аднак, як даўней царскія, так і пазьней польскія суды не маглі разабраць справы, бо абедзьве стараны апіралі свае правы да выгану на старыя і амаль такога самага зьместу граматы, выданыя продкамі графоў Плятэраў — Жаббамі. У гэтых граматах казалася, што права на карыстаньне гэтым выганам на вечныя часы прызнаецца Дварнову, або Юркаву, гэта залежыць у чыіх руках была грамата. З гэтага было ясна відаць, што адзін яе экзэмпляр быў сфальшаваны, але каторы? Вось гэтага не маглі давесьці нават і суды.

Чаго не магло дакана афіцыяльнае права, узяўся даканаць пан маёр, і трэба сказаць, што з посьпехам. Ужываючы аргумантаў аб шляхецкай салідарнасьці й захаваньні цэласьці польскага «стану посяданя», ён пачаў зьбіраць каля сябе што-раз больш староньнікаў паяднаньня. Рэшты даканаў факт, што ён абдзяліў усіх маладых шляхцюкоў шапкамі » «ожэлкамі» і абяцаў ім, што яны будуць браць удзел у дэфілядах. Адным словам, згода была дасягнутая й спорны кавалак выгану пры дапамозе землямера быў падзелены на дзьве роўныя часткі.

Задаволеныя з заканчэньня справы, яе ўдзельнікі дагаварыліся наладзіць супольны пачастунак і на ім уганараваць Фрэя. На працягу некалькіх тыдняў усе прыгатаваньні да гэтага былі закончаныя й на банкет запрасілі амаль усе большменш важныя асабістасьці з усяе гміны, а між імі й Шырана. Было дзіўным, што ён прыняў запросіны, бо ён заўсёды высьмейваў «шляхэцкасьць і польскасьць» мясцовых людзей. Яшчэ дзіўнейшым было тое, што за сталом ён выбраў сабе месца побач Фрэя.

Падрабязнасьці банкету мне мала ведамыя, ведаю толькі аб тым, што пасьля некалькіх тостаў і прамоваў пан маёр апыніўся пад сталом, што выдавалася таксама вельмі дзіўным, бо хоць ён наагул любіў выпіць, але ніколі не перабіраў меры. Ведама, яго вынесьлі ў бакоўку й доктар прымаў самы актыўны ўдзел у ратаваньні. Ад чаго ратавалі Фрэя і як гэта адбылося не дайшло да ведама шырэйшага агулу. Але хутка пашырылася чутка, што ў Глыбоцкую паветавую паліцыю была дастаўлена цётка яшчэ не старога веку й даволі прыемнага выгляду з адбіткай афіцыяльнай гміннай пячаткі на ня вельмі палітычнай частцы цела. У часе допытаў, як гэтая адбітка папала туды, цётка паўтарала адно й тое: — Паночкі мілыя, дадушы нічога не памятаю! І пан войт быў выпіўшы і я была выпіўшы. Дальбог нічога не памятаю!

Памінаючы сяброўства з самым ваяводам Бацянскім і швагроўства са старостам Музычкам, уладам прышлося Фрэя прыбраць, каб хоць часова не мазоліў вочы. На працягу наступных двух-трох тыдняў ані пра яго, ан піра Тосю ня было ніякіх чутак. Аднак пазьней усе пераканаліся, што аднак Бацянскі з Музычкам штосьці вартыя, бо Фрэй быў назначаны на становішча бургомістра ў Дзісну. Заміж пакараньня, ён атрымаў аванс.

У хуткім часе ён забраў да сябе гміннага фурмана Юзіка Краўца й заказаў для яго ўніформу з нейкімі чырвонымі лапікамі на каўняры й пагонах, што, відаць, абазначала нейкую рангу. Апавядалі, што пан маёр дапусьціў яго нават да ўдзелу ў парадах па вуліцах гораду, з тым аднак, што наперадзе заўсёды выступаў сам пан маёр, за ім паручнік Тося, а зусім ззаду — таксама важна выступаў ахвіцэр бліжэй не акрэсьленай рангі — Юзік. Пасьля Лужак, цяпер Дзісна аказалася пад вайсковай акупацыяй.

На месца Фрэя староста прыслаў новага войта, Аляксандра Жэготу, уласьніка невялікага маёнтку каля Докшыцаў. Ён, хоць і паляк, быў чалавекам памяркоўным. За часы ягонага ўрадаваньня жыхары гміны пакрысе пачалі забывацца пра Фрэя, Тосю ды іхнае панаваньне.

Доктар Шыран часта любіў памыцца ў местачковай, належачай да жыдоўскага кагалу, лазьні. Там яго, заўсёды з гонарамі, спатыкаў працаўнік гэтае лазьні стары Антось, па клічцы «неяк-жа будзе». Пасьля звыклых жартаў, Шыран выймаў зь кішэні пэўную суму грошай і даваў іх Антосю не гаворачы ні слова. Той таксама моўчкі йшоў у сваю каморку пры катлоўні й праз хвіліну вяртаўся з даволі вялікім кошыкам у руках і коратка пытаў: Колькі? — Як заўсёды, — таксама коротка адказваў Шыран. — Неяк-жа будзе, — усьміхаючыся, як месяц у поўні, казаў Антось і зьнікаў, каб за якіх хвілін 20 вярнуцца з кошыкам поўным пляшак піва й некалькімі пляшкамі гарэлкі. Шыран у міжчасе разьдзяваўся й пачынаў мыцца. Трэба сказаць, што ён заўсёды мыўся ў агульнай лазьні, ня ў прыклад панам, якія займалі асобныя кабінкі з ваннамі й душамі. Пасьля павароту Антося ён агалашаў, што ўсе, хто ўжо памыўся й жадаюць з лазьні «падмацавацца» могуць гэта зрабіць у Антосявай каморцы. Сам-жа прадаўжаў мыцца, а тых якія ўжо

памыліся віншаваў «зь лёгкім парам».

Аднаго разу Шырану спатрэбілася некалькі катоў для ягонае лябараторыі ў якой ён меў ужо перад гэтым трусоў, белых мышэй і марскіх сьвінак. Ён сказаў пацыентам, што будзе плаціць па 5 злотых за кажнага здаровага й добра адкормленага ката. Ня трэба хіба мець вельмі буйнай фантазіі каб уявіць сабе, што дзеялася на Гарманаўскай вуліцы праз некалькі наступных дзён. Доктар выбраў і заплаціў толькі за трох ці чатырох катоў заявіўшы, што больш іх не патрабуе. Даведаўшыся аб гэтым менш шчасьлівыя ўласьнікі катоў, у большасьці хлопцы-падросткі, папросту вытрасалі іх зь мяшкоў, а самі вярталіся дадому. У выніку гэтага, амаль, уся Гарманаўская вуліца, а таксама частка Маставой і Рынку, некалькі тыдняў перажывалі сапраўдную кашэчую інвазію.

Нязвычайным быў Др. Шыран і з выгляду, а таксама сваіх паводзінаў у штодзённым жыцьці. Быў ён высокага росту й моцна збудаваны, з твару ён быў падобным да мангола, толькі што ягоныя валасы прыгожа кruціліся, чаго, здаецца, не здараецца сярод сапраўдных манголаў. Зімой і летам ён хадзіў бяз шапкі, у расшпіленым плашчы й ніколі ня ўжываў рукавіцаў. Наагул на вопратку ён не зьвяртаў вялікае ўвагі, і яна часамі выглядала на ім даволі неахайна. Рэдка хто са знаёмых, спаткаўшы яго на вуліцы, пасьпяваў прывітацца зь ім першы, бо ён ужо здалёку махаў рукой і шырока, як кажуць, «ад вуха да вуха» ўсьміхаўся. Але ніколі ня вітаўся першы з панкамі, ці прадстаўнікамі адміністрацыі, а часамі нават удаваў, што іх зусім не заўважае.

Калі-ж у Шырановай сям'і нарадзіўся сын, дык назвалі яго нязвычайным, як на тыя часы імям — Майк, і пачалі выхоўваць яго ўжываючы мэтадаў, аб якіх аб якіх ня чулі тагачасныя мясцовыя бацькі. Праз некалькі дзён пасьля нараджэньня, яго пачалі, не зважаючы на пагоду, вывозіць у дзіцячым вазку на панадворак. Ня вывозілі, здаецца, толькі тады, калі ліў заліўны дождж, або бушавала завея. Таксама нянька, падобна, мела суровы загад карміць яго толькі найпрасьцейшымі стравамі, выключаючы ўсялякія панскія прысмакі. Калі хлапец крыху падрос, ніхто не забараняў яму гуляць зь кім ён толькі хацеў, а таксама ніхто не сварыўся на іншых дзяцей, калі тыя крыўдзілі яго, і ніхто ня скардзіўся іх бацькам. Што датычыць Майка, дык ён атрымоўваў пакараньне толькі тады, калі ён крыўдзіў слабейшых. Ад дужэйшых ён мусіў бараніцца сам. Наагул яго каралі вельмі рэдка, ды ніколі біцьцём, але прыдумвалі іншыя кары, якія дзейнічалі на яго яшчэ лепш. Неяк нянька сказала бацьком, што Майк курыў. Паклікаўшы яго ў пакой, бацька запытаў ці гэта праўда. Майк не запярэчыў, бо быў прывучаны казаць заўсёды толькі праўду. Тады бацька даў яму грошы й загадаў купіць пачку папяросаў. Калі той вярнуўся з папяросамі, бацька загадаў яму закурыць. Майк закурыў і пасьля некалькіх «зацяжак» сказаў, што ўжо яму даволі. Але бацька з грознай мінай загадаў курыць далей. Справа скончылася для беднага Майка паездкай у сталіцу Латвіі (ў рыгу). Даўшы яму нейкі лек на ўспакаеньне й нават не забраўшы рэшты папярос, бацька адпусьціў яго гуляць. Ня трэба казаць, што некалькі падобных сэансаў адвучылі малога Майка ад курэньня, ды ня толькі яго самога. У будучыні, калі ён бачыў, што кураць яго сябры, ён злосна вырываў у іх папяросу й таптаў нагой. Сябры, звычайна, пратэставалі вельмі рэдка, бо ён хоць часамі быў меншым ад іх, але мог падбіць вока або расквасіць нос.

Вось так жывучы Др. Шыран і дачакаўся 1939 году й савецкае ўлады. Ён, як і шмат хто з нашай патрыятычнай інтэлігенцыі, хоць можа крыху й ведаў пра



савецкую нацыянальную палітыку, але не прыдаваў гэтаму вялікага значэньня, лічачы, што ўсё-ж па той бок мяжы ёсьць нешта Беларускае й верыў у высьнены ў снах-марах «Беларускі дом». Таму ня дзіва, што ў дзень 17-га верасьня 1939 г. ён зазваніў у казармы КОПу й зажадаў «бязварунковай капітуляцыі». Ацьвяразеньне ад вызваленьня прыйшло даволі хутка. Дасло́уна за некалькі тыдняў Шыран быў ужо ня толькі што «чырвоным», але нават і ня ружовым. Ён цяпер пабачыў, што дарэмна праз апошняе дваццацігодзьдзе змагаўся супраць маны, аблуды й бясправ'я, бо эра якая пачыналася цяпер у нічым ня ўступала папярэдняй. У выніку гэтых духовых перажываньняў у ягонай псыхіцы адбыліся гвалтоўныя зьмены. Ён пастарэў, асунуўся, тыднямі хадзіў ня голены, а таксама згубіў свой ведамы «шыраноўскі» гумар і сваю заўсёднюю дабразычлівасьць да людзей. Цяпер ён выключна аддаўся прафэсыйнай працы, і паза ёю яго нішто больш ня цікавіла.

Для шмат каго, хто ведаў асабіста Др. Шырана й памятае тыя часы, і да сёньня зьяўляецца загадкай чаму НКВД не чапала яго й ня зьнішчыла адразу, як зрабіла гэта з тысячамі іншых беларускіх патрыётаў у якіх адкрыліся вочы на савецкую рэчаіснасьць. Тлумачэньнем гэтаму можа быць толькі тое, што Шыран меў за вялікую папулярнасьць на Дзісьненшчыне й нават паза яе межамі.. Зьнішчылі яго толькі на пачатку нямецка-савецкай вайны.

Праз увесь час савецкае ўлады Шыран працаваў дырэктарам ім-жа адноўленага шпіталя й вельмі рэдка можна было бачыць яго вонкі гэтага шпіталя.

У першыя дні вайны Шырана арыштавалі, пазьней людзі апавядалі, што бачылі яго й кіраўніка школы Голэмбеўскага гнаных пад сільным канвоем у напрамку Плісы. Паводля пазьнейшых вестак іх расстралялі ў лесе каля Галубічаў.

Так загінуў патрыёт свайго народу, ведамы лекар і нязвыклы чалавек — Усевалод Шыран. Доктар Смольская ў часе нямецкае акупацыі працавала на ягоным месцы, дырэктарам таго-ж шпіталю, а пасьля вайны яе й Майка бачылі ў Вільні. Дзе яны сёньня няведама.

## ГАРМАНАУСКАЯ ВУЛІЦА Й ЯЕ ЖЫХАРЫ

Пачынаючы апісваць Гарманаўскую, «маю родную» вуліцу, дзеля дакладнейшага яе апісаньня, я зьвярнуся да пары майго дзяцінства, але гэта пазьней.

Як я ўжо пісаў Гарманаўская вуліца пачыналася на поўдні ад Рынку, а паўночным сваім канцом выходзіла на дарогу Лужкі - Гарманавічы. У адлегласьці нейкіх трыста мэтраў ад апошніх дамоў на гэтай дарозе пачынаўся даволі круты спуск з гары й перайшоўшы праз масток на ручайку, які перасякаў дарогу з захаду на ўсход, ізноў падніма́ўся на ўзгор'е, дзе па правым боку дарогі знаходзіўся праваслаўны магільнік, а па левым так званыя «Всельніцкія магілы». Гэтыя магілы на захадзе заканчваліся высокім і крутым абрывам у бок ракі Мнюты, якая абагнуўшы дугой мястэчка, адгэтуль кіравалася проста на поўнач. Свой назоў гэтае месца ўзяло хіба ад таго, што тут, праўдападобна, даўней хавалі самабойцаў. Пацьвердажаньнем гэтаму было, што мястэчкоўцы бяручы там жвір часта выкопвалі чалавечыя косьці, а нават і чарапы. Аднаго разу хтосьці знайшоў там кінжал з выгляду падобны на каўказкі. Штопраўда ён амаль зусім быў пераедзены іржой, але на ручцы яшчэ былі відныя нейкія нібы сярэбраныя ўпрыгожаньні. Мясцовая паліцыя адразу-ж адабрала яго ў знайшоўшага й выдала забарону браць там жвір, абнёсшы жвіроўню калючым дротам, ды нават спрабавала караць тых, хто насуперак за-

бароне браў там жвір. У даволі хуткім часе зь Вільні прыбыла спэцыяльная камісія, каб шукаць тут, як яна казала, «польскай спадчыны», але перакапаўшы некалькі дзесяткаў квадратных мэтраў жвіроўні й не знайшоўшы нічога апрача некалькіх чалавечых костак, зьнікла таксама хутка, як і зьявілася, а людзі пачалі там ізноў браць жвір без перашкодаў.

Для нас, дзетвары, Вісельніцкія магілы, а дакладней той абрыў, якім яны канчаліся быў месцам сталых забаваў. Тут мы ў першую чаргу даставалі з гнёздаў адменную пароду ластавак, якія свае гнёзды ўюць у пяшчаных норах. Гэта мы рабілі з пэўнай асьцярожнасьцю, бо верылі, што ластаўкі могуць наслаць на нас кару ў выглядзе «рабаценьня», ці інакш вяснушак. Апрача гэтага мы адважна зьяжджалі з абрыву аж да самай ракі. Адзінай прыладай да гэтага спорту былі ўласныя штаны. Ня трэба казаць, што нашыя маткі ўзяўшыся за направу пашкоджаных гэтых «спартовых прыладаў» неадкладна пачыналі вучыць нас «розуму». Гэтая навука на зразумелай нам мове, папросту, называлася «лупцоўкай», ну, але дарослыя заўсёды і ўсё разумеюць наадварот.

Другім таксама вельмі папулярным месцам нашых забаваў быў ужо ўспамінаны ручай, а дакладней яго частка ад маста й да таго месца дзе ён упадаў у раку, бо вышэй ад маста ён быў даволі забалочаны й зь непрыступнымі берагамі. Ручай браў свой пачатак у Азёрку, якое ляжала на поўдзень ад заканчэньня Дзісьненскай вуліцы. Нейкіх мэтраў чатырыста на ўсход ад маста ў яго ўпадаў з паўночнага ўсходу ўжо штучны канал, пракапаны местачкоўцамі з мэтай асушэньня сэрвітуту Каменкі. Відавочна таму нават у найбольш засушлівыя гады ручай не перасыхаў. У ім часамі, асабліва, навесну было крыху рыбы, — малых шчупачкоў і плотак.

Старэйшыя ня вельмі пратэставалі супраць нашых забаваў каля ручая, відаць, мяркуючы, што тут гэта менш небясьпечна як каля Мнюты, якая хоць была невялікая, але затое здрадлівая са шматлікімі вірамі. Якіх толькі гульняў мы там ня выдумвалі, — лавілі кошыкам маленькую, бліжэй нязнанага гатунку, рыбку, якую на сваім дзіцячым жаргоне называлі мы «козамі». Налавіўшы адпаведную колькасьць козаў, што зазвычай не перавышала дзесяці штук, варылі іх на вогнішчы ў бляшанцы ад кансэрвы, дадаючы для лепшага смаку недасьпелых горка-кіслых яблыкаў, шчаўя, агрэсту ды яшчэ сёе-тое. Падмацаваўшыся гэтым варывам, ад якога нам заўсёды балелі жываты, мы браліся за будову мастоў, млыноў і запрудаў зь пяску й ламачча. Калі-ж і гэта надаядала, мы цэлым гурмам залязалі пад мост і пякельным вэрхалам, які часткава напамінаў сёньняшні «рак-энд- ролл», пужалі коні тых, каму ў тым часе прыходзілася пераяжджаць гэты мост. Гэтыя музыкальныя практыкаваньні чамусьці не выклікалі захапленьняў у ўласьнікаў коняў, дык некаторы дзядзька выяўляў сваю немузыкальнасьць пугаю.

Падрастаючы мы паступова перабіраліся са сваімі забавамі да ракі, але там ужо ня мелі такой свабоды, як ля ручая, бо зазвычай нас 10-12 гадовых падросткаў ужа чакалі пэўныя абавязкі дома, добра ведамыя ўсім сялянскім падросткам. У адрозьнені ад ручая, на рацэ мы ўжо лавілі сапраўдную рыбу й сапраўднымі вудамі. Апрача гэтага мы ўжо ня купаліся ўсе разам, як у ручаі, але асобна, у «мужчынскай» ці «бабскай» купальні. І хоць гэтыя купальні разьдзялялі толькі рэдзенькія кусты алешніку й лазы, усё-ж існаваў няпісаны закон, што ў першай маглі купацца толькі тыя, што за неабходны атрыбут сваёй вопраткі лічылі штаны, а ў другой — сукенку ці спадніцу.

Ідучы на захад ад Гарманаўскай вуліцы ў бок ракі трэба было перайсьці невялікі, бо гэктараў на 9, кавалак сенажаці. Акружаная з трох бакоў нявысокімі ўзгоркамі, а чацьвёртым упіраючыся ў раку, гэтая сенажаць магла-б сьмела быць узорам для мастака-пэйзажыста, хоць называлася зусім празаічна — Гумнішча. Мы дзеці, а пазьней падросткі былі папросту закаханыя ў нашым Гумнішчы. Адтуль мы, будучы яшчэ зусім малымі, прыносілі цэлыя бярэмы першых вясеньніх кветак і вельмі дзівіліся, калі старэйшыя абураліся на нас за тое, што мы прывалаклі ў хату гэты «курасьлеп». Падросткамі мы там кажнае вясны аж да Міколы, пакуль на сенажацях дазвалялася пасьвіць жывёлу й забаўляцца, гулялі ў «пікара», у «сьвіньню» ды іншыя гульні. Пазьне зьбіралі там шчаўе, а перад самай касавіцай кмен, які гаспадыні ўжывалі пры выпеку хлеба, квашаньні капусты ці нават запраўляньні гарэлкі.



На поўнач ад Гумнішча, на ўзгорку, была вельмі цікавая сажалка. Яна ніколі не высыхала ня гледзячы на сваё паложаньне, бо на дне яе былі крыніцы. Гэтая сажалка была амаль правільнай, круглай формы й дзеля гэтага яе называлі «Круглае балотца». Зімою балотца было месцам нашых коўзанак, на ім-жа, пры дапамозе старэйшых, кажную зіму мы ладзілі «круцюху». Дзеля гэтае круцюхі яшчэ з восені ў дно балотца, на самай яго сярэдзіне ўбівалі даволі тоўсты кол, у верхняй частцы абчэсаны да такой таўшчыні, каб на яго лёгка накладалася кола ад возу ўжыванае да дзеравянных восяў. Калі балотца замярзала й кол моцна трымаўся, на яго надзявалі старое кола з прымацаванай да яго доўгай і моцнай жэрдкай. На другім канцы жэрдкі прымацоўвалі добрыя акутыя санкі, найчасьцей «падсанкі», якія ўжываліся да вывазкі бярвеньняў зь лесу. Так выглядала круцюха. На санкі ўсаджвалася, звычайна, больш за паўдзесятка дзетвары, а іншыя папіхалі жэрдку навокал кала надаючы гэтым хуткасьці санкам. Па прычыне майго калецтва, я заўсёды звальняўся ад павіннасьці папіханьня жэрдкі й таму круціўся на санках датуль, пакуль не замітусіцца ў вачох. Часамі здараліся аварыі, калі санкі перакульваліся, або яшчэ горш, адрываліся. Тады аматары паезьдзіць на санках праз даўжэйшы час лекавалі пакалечаныя калені й локці. Аднак ня гледзячы на гэта, лік аматараў «моцных уражаньняў», ніколі не зьмяншаўся, а быў-бы яшчэ большым, каб мы (сёньня аж сорам прызнацца) са зброяй у руках у выглядзе кіёў, не баранілі доступу на круцюху аматарам зь іншых вуліц.

Гэтак больш-менш выглядалі ваколіцы Гарманаўскай вуліцы. Сам выгляд яе нічым асаблівым не вызначаўся, як я ўжо пісаў. На ёй ня было вялікіх дамоў, апрача можа аднаго даволі прыгожага й пабудаванага з чырвонай цэглы ды з бляшаным, чырвоным дахам. У гэтым доме месьцілася аптэка й памешканьне ўласьнікаў — сям'і Вайнбэргаў. Апошнімі яе ўласьнікамі былі брат і сястра, вельмі сумленныя й паважаныя людзі. Яны вельмі часта адпускалі незаможным людзям лекі па зьніжаных цэнах, а то й зусім бясплатна. Супрацуючы з доктарам Шыраном, яны выдатна памагалі местачковай і акалічнай беднаце. Іх ведала ўся гміна і яны таксама працуючы ў гэтай галіне ад некалькіх пакаленьняў ведалі амаль усіх. Калі ў 1943 годзе немцы зьнішчалі іх разам зь іншымі іх суродзічамі, насельніцтва шчыра шкадавала іх і аплаквала.

На Гарманаўскай вуліцы жыло некалькі сапраўды нязвыклых людзей: у першую чаргу дзед Ярох (сапраўднае прозьвішча Янка Ярахновіч), мая бабка Крыстына, Ігнат Крыўка, па клічцы «Буры» ды яшчэ некалькі іншых. Напэўна я аказаўся-б няўдзячным, калі-б ня ўспомніў добрым словам маіх дзядзькоў Уладзіміра й Лявона Канановічаў, братоў мае маці, ў доме якіх я правёў сваё дзяцінства й

частку юначых гадоў. Асабліва старэйшы Уладзімір праявіў да мяне столькі адданасьці й сэрца ў часе хваробы, што ясапраўды ня ведаю ці больш мог-бы зрабіць для мяне мой родны бацька, які памёр без пары. Пакуль буду жыць, заўсёды аб іх буду памятаць і заўсёды буду іх высока цаніць.

А цяпер пра дзеда Яроха. Як сёньня бачу ягоную складную постаць і мне часта прыходзіць на думку, што каб я быў мастаком і патрабаваў мадэлі на партрэт «старога беларуса», то напэўна выбраў-бы толькі дзеда Яроха. Сярэдняга ўзросту, шыракаплечы, з цёмнымі ледзь кранутымі сівізной і даволі доўгімі валасамі й такога-ж колеру круглай барадой, не па-старэчу сінімі, як васількі вачыма й румяным тварам — ён увасабляў сабой здароўе й сілу. Апрануты заўсёды ў саматканую, белую кашулю й такія-ж порткі, а ў халаднейшую пагоду ў армяк-сьвітку, зімой у кажух. Ён вельмі рэдка абуваў скураны абутак — боты, можа толькі раньняй вясной, ці ўвосень, калі надвор'е было вельмі мокрым. Увесь іншы час ён хадзіў у пяньковых лапцях зімой, і ў скураных хадаках, ім-жа самім змайстраваных з аднаго кавалка скуры, летам. У вялікія маразы ён любіў падсьмяяць тых, у каго ў скураных ботах мерзьлі ногі.

Ніхто ня ведаў колькі дзед мае год,, а магчыма ён і сам гэтага ня ведаў. Калі ў яго хтосьці аб гэтым пытаў, дык ён жартуючы адказваў: «Калі я жаніўся, дык твайго дзеда яшчэ на сьвеце ня было, а калі твой бацька жаніўся, дык я быў у тры разы старэйшы за яго». Неяк ніхто не стараўся дакладна разабрацца ў дзедавай арытмэтыцы. Калі ён памёр у канцы 20-ых гадоў, людзі казалі, што яму далёка пераваліла за 120 год. Нязраз ён ахвотна апавядаў, як будучы малым хлапцом ды седзячы на плоце ён прыглядаўся, як «французы» з маскалямі ваявалі, і як цівун пазьней высек яго бізуном, бо ён дзеля гэтае вайны ўпусьціў сьвіней у панскія буракі. Наагул ён любіў апавядаць пра даўныя часы, а між іншым і пра «мяцёжнікаў». Пад «мяцёжнікамі» ён, мабыць, разумеў паўстанцаў К. Каліноўскага. Наагул адзываўся пра паўстанцаў з сымпатыяй, але надта ганьбіў нейкага Яцыну й цешыўся зь ягонае паразы.

Ня могучы даведацца колькі дзеду год, мы для адмены пыталі ў яго, калі ён будзе ўміраць. Дзед зазвычай не злаваўся за такія, даволі грубіянскія жарты недаросткаў-падшыванцаў і сьмяючыся адказваў: «Ну, і дурачкі-ж, вы, мае дзеткі! Дзе-ж мяне сьмерць знойдзе? Яна ў першую чаргу прыпрэцца да мяне на печ, а я ўжо ў гумне; яна ў гумно, а я ў хляве; яна ў хлеў, а я ўжо паехаў у лес. Вядома-ж, у лес яна не пабяжыць, бо ваўкоў баіцца. Вось, так і жыву, ды яшчэ доўга жыць буду!» Калі добра ўдумацца ў гэты дзедаў адказ, можна заўважыць колькі ў ім жыцьцёвае мудрасьці. Ён сваім сялянскім розумам цяміў тое, чаму не пярэчыць сучасная мэдыцына, якая прапагуе для старэйшых людзей ужываць як мага больш руху.

Працаваў дзед Ярох сапраўды нястомна. Ніхто зь ягоных суседзяў не ывяжджаў у поле раней, і не вяртаўся пазьней за яго. Цяжкой, у разуменьні іншых, працы для Яроха не існавала. Дзеля таго, што ў Лужках былі вельмі малыя зямельныя надзелы, дык ніхто зь мястачкоўцаў ня ўжываў машын пры малацьбе збожжа, а калі хто ўжываў, дык толькі на гарох, авёс ці ячмень, — усю іншую збажыну малацілі цапамі. У Яроха быў звычай малаціць усё чыста цапамі. Калі ягоны сын, два ўнукі, а пазьней і праўнук ужывалі звычайных драўляных цапоў, дык дзед меў адумысловы жалезны цэп, дзе заміж драўлянага біча быў прывязаны да ца-





О, край родны, край прыгожы!
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей у сьвеце Божым
Гэтых сьветлых берагоў,
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе бары-лясы гудуць,
Дзе мядамі пахнуць грэчкі,
Ніве гутаркі вядуць;
Гэтых гмахаў безгранічных
Балатоў тваіх, вазёр,
Дзе пад гоман хваль крынічных
Думкі думае прастор;
Дзе увосень плачуць лозы,
Дзе вясной лугі цьвітуць,
Дзе шляхом старым бярозы
Адзначаюць гожа пуць?

Гэй, адвечныя курганы,
Сьведкі прошласьці глухой!
Кім вы тут панасыпаны?
Чыёй воляю-рукой
Вы раськіданы па полі,
Даўных спраў вартаўнікі?
Эх, ня скажаце ніколі,
Што казалі вам вякі!
Вы пуцінаю нярoўнай
Бяжыце ў далячыню,
У бок Віліі чароўнай
І пад сьветлую Дзьвіну.

Край мой родны! Дзе-ж у сьвеце
Край другі такі знайсьці,
Дзе-б магла так, поруч зь сьмецьцем,
Гожасьць пышная ўзрасьці?
Дзе-бы вобруку з галечай
Расквітнеў багацтва цуд
І дзе-б з долі чалавечай
Насьмяяліся, як тут?..
. . . . . . . . . . .
Брацьце мае, беларусы!
У тэй кнізе людзкіх спраў
Сам лёс, мусіць, для спакусы
Гэты край нам адзначаў.
Тут схадзіліся плямёны
Спрэчкі сілаю канчаць,
Каб багата адароны
Мілы край наш зваяваць,
А нас цяжка ў сэрца раніць,
Пад прыгон узяць навек,
Нашы скарбы апаганіць,
Душу вынесьці на зьдзек,
Каб у віры той ашукі
Зьнішчыць нашы ўсе сьляды,
Каб ня ведалі і ўнукі,
Хто такія іх дзяды.
І лілася кроў нявінна,
Швэд набытак наш паліў,
І маскаль тут самачынна
Гвалт над намі утварыў,
Будаваў астрог народу
І барбарскім капылом
Мерыў волю і свабоду,
А культуру нёс з калом.
. . . . . . . . . . .
Эх, чаго нам ні прышлося,
Брацьце мілыя, ужыць!
Колькі талентаў зьвялося,
Колькі іх і дзе ляжыць
Невядомых, няпрызнаных.
Не аплаканых нікім,
Толькі ў полі адсьпяваных
Ветру посьвістам пустым!
Дык хіба-ж мы праў ня маем,
Сілы шлях свой адзначаць
І сваім уласным краем
Край свой родны называць?

З паэмы «Сымон Музыка», ч. 3.



## ПАЎСТАНЬ З НАРОДУ НАШАГА...

Паўстань з народу нашага, Прарок,
Праяваў буралломных варажбіт,
І мудрым словам ськінь з народу ўрок,
Якім быў век праз ворага спавіт.

Зьбяры ў вадну ўсю Беларусь сям'ю,
Вазьмі зь яе прысягу і зарок,
Што не прадасьць сябе, сваю зямлю...
Зьняць путы бацькаўшчыне ўстань, Прарок...

*

Паўстань з народу нашага, Пясьняр,
Былых і будучых вякоў баян,
І ў бурны кліч, як буры ўдар,
Зь віхрамі загудзі пад звон кайдан!

Гудзі па Беларусі з краю ў край,
У сэрцах сьпячых распалі пажар,
Над курганамі пяруном зайграй.
Збудзіць нябожчыкаў паўстань, Пясьняр.

*

Паўстань з народу нашага, Ваяк,
І волатам на вогненым кані
Народ аграблены — бы з торб жабрак —
За бацькаўшчыну павядзі ў вагні.

Паўстань і глянь, як зьяюць скрозь вагнішчы,
Як носяцца ўсясьветных зьмен віхры,
Як на старога быту папялішчы
Цьвет зацьвітае новае зары!

Паўстань, Народ! Для будучыны шчасьце
Ты строй, каб пут ня строіў больш сусед;
Ня дайся ў гэты грозны час прапасьці, —
Прапашчых не пацешыць шчасьцем сьвет.

Сваю магутнасьць пакажы ты сьвету, —
Свой край, сябе ў пашане мець прымусь.
Паўстань, Народ!.. З крыві і сьлёз кліч гэты...
Цябе чакае маці-Беларусь!

29. 10. 1918





паўя звыклы жалезны швoран.*) Калі хтосьці з малацьбітоў, або нават усе, таміліся й пачыналі губіць такт, дзед бяз слова зьняважліва міргаў у бок застаронку, і тыя таксама бяз слова йшлі адзін за адным туды адпачыць. Калі дзед заставаўся адзін, ён так лупіў сваім жалезным цэпам, што аж пяравеслы ляцелі ўгору.

Усю сваю сям'ю дзед трымаў у паслухмянасьці й дысцыпліне. Без ягонага ведама й загаду ніхто ня меў права нічога рабіць. І трэба прызнаць, што гэта заўсёды выходзіла ім на карысьць, бо больш дасьветчанага за дзеда гаспадара ў ваколіцы ня было. Ярахновічы мелі ўсяго каля пяці гэктараў ворнай зямлі, але жылі яны багацей за тых, хто меў гэтай зямлі ў два разы больш. Справа ў тым, што дзед зь сям'ёй бралі на запашку[1]) загоны тых местачкоўцаў, якія не маглі, або часамі й не хацелі абрабляць іх самі. Апрача гэтага кажнага лета яны касілі з «трацяка» дзялянкі на графскай сенажаці «Плаўна». Мелі з гэтага вазоў 12 лішняга сена, так што маглі пракарміць праз зіму адну або дзьве дадатковыя каровы. Малако яны прадавалі ў малачарню або ў казарму КОПу, і гэта давала ім даход. Дзедавы палеткі былі таксама заўсёды лепш угноеныя за суседзкія.

У дзедавым сьвіронку ніколі не пуставалі засекі, а вясною да яго йшлі ў пазыкі тыя, каму не хапала зярна на пасеў. Звычайна ён нікому не адмаўляў, але заўсёды перад тым як насыпаць жаданую колькасьць зярна, ён браў яго ў жменю й выве́ўшы на дзённае сьвятло таго хто прыйшоў пазычаць, паказваў яму якое буйнае й незасьмечанае зярно ён атрымоўвае. Пры гэтым казаў: «Памятай, каб такое самае аддаў мне ўвосень». Насыпаўшы зярна ў мяшок і зважыўшы яго на самаробным бязьмене[2]) ён выцягаў з-пад страхі ляшчынавы прут і рабіў нажом на гэтым пруце яму толькі ведамыя таямнічыя знакі, у дадатку да мноства зробленых раней. Пазьней зрабіўшы над мяшком знак крыжа, ён звычайна казаў: «Ну, радзі Божа! — і дадаваў, — аддасі пасьля Пакрова». І ніколі ня было выпадку, каб дзедава ляшчынавая канцылярыя калі-небудзь падвяла. Увосень ён адчытваў дакладна тое, што «запісаў» вясною. Трэба сказаць, што дзед Ярох быў вельмі сумленным і не хацеў нічога чужога. Ён ніколі не вызначаў сваім даўжнікам вышыні працэнтаў. Здавальняўся тым, што яму дадуць, і, здаецца, ніколі на гэтым ня траціў. Калі-ж ізноў заўважаў з чыйгось боку нясумленнасьць, тады ніякая сіла не магла яго змусіць мець нейкія дачыненьні зь вінаватым.

Дзед Ярох таксама, ня толькі што ня любіў, але папросту ненавідзеў зладзеяў, але аднак заўсёды літаваўся на тымі, хто дапусьціўся зладзейства, бачачы, што да гэтага прывяла іх сапраўдная бяда. Як доказ напомню адно вельмі харатрэрнае здарэньне. Праз некалькі хатаў ад дзеда Яроха жыла сям'я Румоўскіх. Бацькі іх штосьці між сабой ня ладзілі аж нарэшце бацька пайшоў з дому. У міжчасе старэйшая сястра выйшла замуж, так што ў хаце засталася толькі маці з двума хлапцамі-падросткамі зь якімі я сябраваў, асабліва з малодшым Віктарам па клічцы «прэзыдэнт». Калі неяк зімой ня стала дроў, каб абагрэць насты́лую хату й зварыць страву, Віктар рашыўся на нясумленны паступак, — пачаў разьбіраць плот, якім было агароджана дзедава гумно ды пілаваць яго на дровы. Такіх дабычаў дроў зрабіў ён ужо некалькі калі аднаго разу выцягнуўшы й паклаўшы на плячо

*) Швoран — жалезны прут на якім паварочваецца пярэдняя вось у возе.

[1]) Запашка — абрабляньне чужое зямлі з умовай падзелу ўраджаю папалам.

[2]) Бязьмен — самаробная вага ў выглядзе прута з цяжарам на адным і гакам на другім канцы.

даволі цяжкую як на ягоныя дзіцячыя сілы жардзіну, моцны ўдар ледзь не зваліў яго з ног. Як мага хутчэй ён кінуў сваю ношу й пусьціўся наўцёкі, але прабегшы пэўную адлегласьць ён азірнуўся й пабачыў дзеда Яроха зь кіём у руцэ каля разабранага плоту. Прыбегшы дадому й хутчэй узьлезшы на печ, хутчэй са страху, чым з надзеі абагрэцца на сьцюдзённай печы, ён пачаў раздумоўвацца, як гэта дзед даведаўся пра крадзеж. Амаль увесь тыдзень была вельмі благая пагода, і завея панамятала гурбы сьнегу чуць ня роўныя з будынкамі, а зь Ярохавага панадворку ня было відаць ніякіх сьлядоў у бок гумна. Аднак доўга думаць не давялося ,бо хтосьці пачаў гвалтоўна дабівацца ў дзьверы. Віктар упэўнены, што дзед прывёў паліцыю не адзываўся, але калі грукат паўтарыўся ізноў, ён дрыжучы ад страху адсунуў засаўку ў дзьвярох. Якое-ж было ягонае зьдзіўленьне, калі ў адчыненыя дзьверы ўвалілася вялікая вязанка бярозавых дроў і пачуўся злосны Ярохаў голас: — «Вось, табе дровы, ты паскуднік! Запалі ў печы, а заўтра раніцоў бяры майго каня ды едзь на Калашыну (Калашыной празывалі вузкі й доўгі кавалак дзедавай сенажаці), там у мяне ёсьць бярозка-сухастоіна. Толькі не забудзься падабраць за сабой суччо, ты поскудзь», — ужо зусім спакойным голасам прадаўжаў дзед ды бразнуўшы дзьвярыма, зьнік.

Назаўтра Віктар, ведама, пастыдаўся ісьці да дзеда па каня. І вось недзе ўжо каля паўдня дзед Ярох ізноў зьявіўся ў хаце Румоўскіх. — «Ну, паніч, дзе ты там? Нешта ты позна сьпіш...» — гэта былі першыя дзедавы словы. Віктар пабачыўшы дзеда калі ён быў яшчэ толькі на панадворку, захінуўся хуценька ў бакоўку, але пачуўшы ягоны лагодны голас выйшаў адтуль і стаяў апусьціўшы галаву. — «Вось на перакусі крышку ды паедзем», — прадаўжаў далей дзед. Гаворачы гэта ён выцягнуў з-за пазухі акраец хлеба й даволі ладны кусок сала завінутага ў чыстую шматку, ды палажыўшы гэта на стале й абняўшы хлапца за плечы ўжо з жартам дадаў: — «Ну, чаго-ж ты дрыжыш, як, не раўнуючы, тая квашаніна? Я-ж цябе ня б'ю. Еш хутчэй ды паедзем! Во глядзі якая ўжо пара, можам і да зьмярканьня ня ўправіцца». Віктір зусім зьбіты з панталыку, бо нічога падобнага не спадзяваўся за свой паступак, пачаў хуценька есьці. Дзед Ярох выняў зь кішэні пару рукавіцаў і сказаў: — «Учора я бачыў, што ты лётаеш па марозе галаруч, гэтак і пальцы адмарозіць можна!»

Прыехаўшы на Калашыну яны пабачылі, што дзодаву сухастоіну ўжо хтосьці ўправіўся зрэзаць. Насуліўшы «трасцаў» зладзеям, дзед ськіваваўся ў другі канец сенажаці дзе яны зрэзалі не адну, а ўжо некалькі бярозак, так што да дому прывезьлі вялікі воз дроў. Пасьля вечарам Ярох яшчэ навайстрыў пілу для Румоўскіх, бо яна ўжо была, як той казаў «да нічога».

Дзед Ярох ня гледзячы што быў вельмі пабожным, у царкву хадзіў вельмі рэдка, усяго толькі на Каляды, Вялікдзень і абавязкава да споведзі. Штопраўда, ён хоць і на кораценька ўступаў у царкву тады, калі здараліся паховіны, вясельле, або штось іншае. Дзед заўсёды падкрэсьліваў, што ён праваслаўны й вельмі абураўся калі хтосьці адзываўся зьняважліва аб рэлігіі наагул. Ён таксама, зь яму толькі ведамай прычыны, ня любіў сьвятароў, ня толькі праваслаўных, але й каталіцкіх.

Дзед без каляндара ведаў на калі прыпадаюць тыя ці іншыя сьвяты, ды ня толькі сталыя, як Каляды, Новы год, Грамніцы, Пятрай Паўла, ці Ільлі, але й пераходныя, як Вялікдзень, Сёмуха й г. д. Трэба абавязкава заціміць, што дзед хоць не хадзіў у царкву, але ў сьвяты ніколі не працаваў і амаль па цэлых днях уголас



маліўся паўтараючы па некалькі разоў усе, якія толькі ведаў малітвы праваслаўныя й каталіцкія. Варта зазначыць, што дзед некаторыя малітвы неміласэрна перакручваў на свой лад, напрыклад каталіцкае «седзі на правіцы» — у яго выходзіла, як «седзі на травіцы», а «сьвентых абцоване», як «сьвентых лупцаваньне». Калі ён канчаў афіцыяльнаназываныя ім «пацеры», тады пачынаў ксампанаваныя ім самым і падыходзячыя да ўсялякіх жыцьцёвых патрэбаў «модлы», як напрыклад: — «Матка Боская, зрабі так, каб гэты здыхляк мой Пётра не кашляў так па цэлых начах, і каб Тэкля не квахтала так ад болю, як, не раўнуючы, курыца на яйцах. Памажы ім Матухна! Ды чаго-ж гэты сапляк, Базылёвых, усё кульгае? Божухна памажы і яму! Сьвяты Ільля ахарані ад граду й маё і іншых людзей жыта. Надта-ж пекнае яно выкаласавалася сёлета. Аж страх бярэ, каб Ты не дапусьціў якога няшчасьця». Тут я мушу ўнесьці некаторыя выясьненьні ў дзедавы «модлы». Пётра — гэта Ярохаў сын, які ня ў прыклад бацьку, ня вызначаўся добрым здароўем; Тэкля — гэта старая Ярошыха; Базылёвымі — называлі нашу сям'ю, дык, ведама, што «сапляк» — гэта нібы я.

Свае пацеры й модлы дзед заззычай цытаваў уголас і ня сароміўся, калі яго хтосьці слухаў, абураўся вельмі моцна толькі тады, калі яго па нейкай прычыне перапынялі. Тады ён злосна казаў: — «Нячысьцікі, мала таго, што самі сілком у пекла лезуць, дык яшчэ і іншых за сабою цягнуць...»

Апрача сьвятароў, дзед ня зносіў і лекароў. Але ў гэтым выпадку прычанай было ягонае «жалезнае» здароўе. Лекароў папросту ён не патрабаваў і лічыў, што яны на сьвеце непатрэбныя. Штопраўдаў , так званыя, «дамовыя» лекі ён крыху верыў, але ўжываў іх на свой уласны спосаб, пасьля-ж злаваўся, што яны ня дзейнічаюць. Асабліва сьмешны выпадак здарыўся зь дзедам, калі яму аднаго разу пачало калоць у баку й нешта «торгаць» у паясьніцы. Тады ён прыйшоў да мае бабкі, якая між іншым, зналася на дамовых леках і папрасіў нейкага лякарства на сваё недамаганьне, але толькі пад умовай, што гэты лек ня трэба будзе піць, або, прынамсі, каб ён ня быў агідным на смак. Крыху падумаўшы бабка параіла яму прылажыць нанач да паясьніцы й боку «аграваючы кампрэс». Пасьля доўгіх выясьненьняў ён нарэшце зразумеў, што на балючыя месцы трэба пакласьці змочаны ў вадзе й складзены ў некалькі разоў ручнік, пазьней зьверху палажыць яшчэ штосьці такое, што ня вельмі добра парапускае паветра, а далей укруціць яшчэ чымсь цёплым, як ваўнянай хусткай, укрыцца коўдрай і легчы ў пасьцель. Пад вечар таго-ж дня на нашым панадворку зьявіўся разьюшаны дзед Ярох.

—Дзе гэтая дахтарыца праклятая? — крычаў ён. — Крыстына, хадзі сюды кажу табе! Калі нарэшце не на жарты перапалоханая бабка зьявілася на панадворку, Ярох топаючы нагамі ад злосьці накінуўся на яе. — «Дзякую, дзякую суседачка, што хацела збавіць мяне з гэтага сьвету. Пры-ду-ма-ла лякарства! У-у, ты нягодніца! Ледзь зь лесу вярнуўся!» Перапалоханая бабка пачала апраўдвацца й толькі пасьля даўжэйшага часу выясьнілася, што Ярох заміж ручніка намачыў у памыйніцы мяшок ад бульбы, акруціўся ім, нацягнуў наверх дзьве пары тоўстых суконных портак, апрануў паўшубак ды зьверху яшчэ армяк, падперазаўся й паехаў у лес. Дзень выдаўся даволі марозным. Так што дзеду не ўдалося нават насеч поўнага возу дроў, бо трэба было якмага хутчэй вяртацца да хаты.

Дзед Ярох быў жанаты, здаецца, тры разы, але толькі ад другой жонкі меў двух сыноў, старэйшы Пётра быў таксама даўгавечным, як бацька, ня гледзячы на тое, што ўсё сваё жыцьцё недамагаў. З гэтай прычыны дзед часьцяком пад-

сьмейваў яго, але ня злосна. Апошняя дзедава жонка Тэкля, хоць і хварэла некалькі апошніх год свайго жыцьця, але ніколі ня была аб'ектам дзедавых жартаў.

Перад самай сьмерцю, Тэкля ўжо некалькі тыдняў ня ўставала з пасьцелі й калі ёй ужо зрабілася зусім дрэнна, дык да яе сабраліся суседкі й сяброўкі каб памаліцца пры ёй з «кантычкі». *) Тут я мушу зрабіць пэўны водступ і выясьніць, што ў нашай ваколіцы быў звычай, што калі хтосьці паміраў ці быў безнадзейна хворым, дык бяз розьніцы, ці ён быў каталіком ці праваслаўным, да яго пасьцелі зьбіраліся старэйшыя жанчыны, або часамі й мужчыны, ды маліліся з кантычкі каб Бог паслаў яму лягчэйшую сьмерць. Гэта самае адбывалася й на паховінах, з тэй толькі розьніцай, што цяпер ужо маліліся за супакой яго душы. Цікава яшчэ й тое, што молячыяся ў большасьці былі праваслаўнымі. Каля Тэклі маліліся людзі ў працягу некалькіх вечароў, а сьмерць усё ня прыходзіла. Аднаго вечару ўжо блізка пад поўнач, дзед зьлезшы зь печы заявіў: — «Ідзіце суседачкі да дому, што вы тут будзеце марнатравіцца? Ідзіце з Богам, а як будзе трэба, дык я вас паклічу». Неяк досьвіткамі пачуўся стук у нашае вакно і адазваўся дзедаў голас: — «Крыстына, уставай! Тэкля ўжо памерла...»

Па сьмерці Тэклі дзед моцна засумаваў, хоць не хацеў па сабе гэтага паказваць. Ён страціў апэтыт і ахвоту да працы ды нават некалькі дзён ня зьлязаў зь печы. Тады суседкі вырашылі, што й дзеду Яроху прыдзецца паміраць. Паклікаўшы іншых яны сабраліся ў Ярохавай хаце, аднак пабачыўшы, што яго няма на ложку, пачалі радзіцца ці наагул яшчэ не зарана пачынаць свае песьні. Ярох тымчасам ціхенька ляжаў на печы не падаючы навак знаку жыцьця. Нарэшце адна з найбольш адважных падыйшла да печы й прыгледзіўшыся добра пабачыла Ярохавы ногі. Падыйшоўшы яшчэ бліжэй яна лёгенька дакранулася да дзедавых пятак і зашаптала: — «Ах, мае сястрыцы, сьцюдзёныя! Дальбог-жа сьцюдзёныя!» Крыху пачакаўшы яна крышку мацней паклікала: — «Янка! Га, Янчка!» Не дачакаўшыся адказу яна падміргнула сяброўкам і яны пачалі «Под Твоён абронень», як сталася неспадзяваная рэч. Ярох трымаючы аднэй рукой ападаючыя порткі саскочыў зь печы й схапіўшы з качарэжніку чапялю *) закрычаў: — «Прэч усе ад гэтуль! Каб вашага й сьледу тут ня было! Тэклю на той сьвет выправілі без пары й мяне хочаце. Яна, бядачка, можа-б яшчэ й пажыла, а яны ўсёсьпяваюць ды сьпяваюць,» — дадаў ён ўжо крыху лагаднейшым тонам, пабачыўшы, што сьпявачкі расступіліся перад ім, як куры перад каршуном. Аглянуўшыся па нейкім часе, дзед без пасьпеху зачыніў дзьверы. Пасьля ён апрануўся, памыў твар і рукі й дастаўшы зь печы ладную міску бліноў, зьеў іх запіўшы паўквартовым кубкам квасу й пайшоў па сваіх справах. Больш ён не сумаваў.

Апрача «ляшчынавай» канцыляры на пазычанае зерня, дзед вёў яшчэ і «мэтэаралягічную» канцылярыю. Кожны дзень летам і зімой, дакладней сказаўшы круглы год, на іншым ляшчынавым кію дзед зазначаў пагоду, каб пазьней у таямнічы спосаб адчытаць яе амаль без памылак на прыпадаючы дзень. Якія вылічэньні ён тут ужываў, нікому няведама, але бывала казаў: — «Заўтра зранку трэба крыху пакасіць, бо будзе невялічкі дождж, а пасьля паўдня выпагадзіцца й будзе горача». Пры гэтым ён мыляўся ня больш ад сапраўдных мэтэарылёгаў.

Памёр дзед Ярох таксама ў нязвычайны спосаб. Зранку памыўшыся ў лазьні, бо гэта была сыбота, ён выдаў загады каму й што рабіць, а калі ўсе разыйшліся, загадаў унуку паклікаць сьвятара й сказаць яму, што дзед хоча паспавядацца, бо ён сёньня будзе ўміраць. Калі хлапец нешта запярэчыў, дзед злосна на яго прыкрыкнуў і загадаў рабіць так, як ён кажа. У міжчасе дзед перапрануўся ў чыстае й сеў каля стала, на якім паставіў запаленую «грамніцу». *) Дзеля таго, што сьвятар жыў зусім недалёка, ён хутка прыйшоў і пабачыўшы дзеда каля стала абурыўся, думаючы, што той зь яго творыць жарты. Дзед, аднак, сур'ёзна запэўніў сьвятара, што гэта ня жарты й, што ён сапраўды будзе ўміраць. Сьвятар паспавядаў і прычасьціў дзеда, ды адмовіўшы яшчэ некалькі належных у падобных выпадках малітваў, пайшоў да дому. Калі сьвятар выйшаў, Ярох паклікаў да сябе ўнука й цалуючы яго сказаў: — «Ну, ты даруй мне старому, можа калі накрычаў на цябе непатрэбна, або нават і пасьцёбаў. Ня крыўдуй на мяне, бо я ўжо больш ня буду гэтага рабіць». Пасьля гэтага ён загасіў грамніцу й хрысьцячыся й шэпчучы малітвы лёг на ложку. Унук пабег на вуліцу да сяброў. Калі нехта са старэйшых за якое паўгадзіны зайшоў у хату, дзед ужо ня жыў.

Апавядаючы пра дзеда Яроха, я ўспамінаў маю родную бабку Крыстыну толькі мімаходам, але яна сапраўды заслугоўвае на тое, каб ёй прысьвяціць крыху больш часу.

Мая бабуля была нявысокага росту й шчуплая целам. Амаль да самай сьмерці яна захавала дзявочую жвавасьць і добры гумар, ня гледзячы на тое, што ў апошніх гадох свайго жыцьця яна моцна недамагала. Ня хочучы сваім станам здароўя рабіць лішніх клопатаў, ці як яна гэта называла «няціхотаў» для сям'і, старалася гэтага не паказваць навонкі. Да самай сьмерці яна курыла, чым у сваім часе выклікала нездаваленьне свайго мужа, майго дзеда Базыля, якога я ўжо ўспамінаў напачатку. Дзед Базыль перастаў курыць яшчэ ў маладым веку, падобна дзеля парады лекара. Бабуля Крыстына, паводля яе ўласных слоў, навучылася курыць у часе пошасьці халеры, калі людзі верылі ,што дым з тытуну можа адагнаць гэтую хваробу. У часе гэтай пошасьці ці інакш эпідэміі халеры, памерлі бабуліны бацькі, а хутка пасьля гэтага старэйшыя браты выдалі яе амаль сілком замуж, хоць яна ня мела яшчэ поўных 17-ці год. Аднак ня гледзячы на гэта, яна засталася вернай праз усё жыцьцё свайму Базыльку, а ён захаваў для яе таксама чулыя паблажліва-пяшчотныя пачуцьці.

Прыйшоўшы ў чужую сям'ю як маладая й шмат яшчэ чаго не разумеючая дзяўчынка, яна перацярпела шмат гора ад старэйшага Базылёвага брата Якуба, а асабліва ад ягонае жонкі Аленкі, сварлівай і не пераносячай супрацiву кабеты. Хоць Базыль быў добры для бабулі й спагадаў ёй, але паводля існуючых тады звычаяў, павінен быў ува ўсім падпарадкавацца старэйшаму брату ды ягонай жонцы. А дзеля таго, што, як я ўжо казаў, Аленка мела дэспатычны характар, дык сапраўнай гаспадыняй у хаце была толькі яна. Аб існуючых у хаце парадках і аб жыцьцёвым недасьветчаньні бабулі сьветчыць наступнае здарэньне: Пасьля двух ці трох гадоў ад жаніства з Базылём, той па доўгіх спрэчках і угаворах здолеў пераканаць Якуба, каб ён даў згоду справіць Крыстыне чаравікі да Вялікадня. Пагатове сам ён быў шаўцом, дык неадкладна ўзяўся за працу. Калі чаравікі былі амаль гатовымі, аб гэтым неяк даведалася Аленка. Яна стварыла ў хаце сапраўднае пекла,

*) Кантычка — каталіцкая кніжка-малітоўнік у польскай мове.

*) Чапяля — прылада да трыманьня патэльні над агнём.

*) Грамніца — сьвечка пасьвечаная на сьвята Грамніцаў, якую палілі калі хтосьці паміраў.

дамагаючыся, каб гэтыя чаравікі былі праданыя на кірмашы, а грошы ўжытыя на хатнія патрэбы. Відаць, чаравікі прадалі-б, каб не адважная пастава Базыля, ды хістаньне Якуба, які ў душы прызнаваў рацыю яму й Крыстыне, ня гледзячы на тое, што як агню баяўся свае Аленкі. Але і Аленка ў сваю чаргу так лёгенька не паддалася. Яна вымагла на мужчынах, каб неяк дасаліць Крыстыне, каб тая ў часе Вялікоднай Усяночнай засталася дома й даглядала ейных — Аленчыных дзяцей. Заплаканая бядачка была змушаная пагадзіцца. Застаўшыся адна дома, яна крыху паплакала наракаючы на сваю долю, але нарэшце пастанавіла аказаць супраціў існуючым парадкам і сказаць усю праўду Аленцы і Якубу. І хоць пакуса на выказаньне праўды была вялікая, яе апаноўваў непакой, ці хопіць ёй на гэта адвагі. Уканцы ёй прыйшло на думку, што п'яныя людзі стаюцца больш адважнымі. Але як зрабіцца на якое паўгадзінкі п'янай? Вырашаньне прыйшло само-сабою. Бабуля прыпомніла, што за некалькі дзён перад Вялікаднем Якуб прынёс з карчмы даволі вялікую пляшку гарэлкі на сьвята. Але дзе ён яе схаваў? Можа ў Аленчынай скрыні? Адчыніўшы скрыню й адкінуўшы на бок сувоі палатна, яна пабачыла поўную пяшку. Трэба сказаць, што бабуля, напэўна, і ня ведала смаку гарэлкі, бо нават на сваім вясельлі яна за сьлязамі наўрад ці выпіла хоць адну чарку. Але як-жа піць гарэлку не разгавеўшыся пасьля Вялікоднага посту... Тады бабуля шчыра памаліўшыся дастала з паліцы хоць і не пасьвячанае, але акрашанае яйцо й кавалак хлеба ды пачала «разгаўляцца» й выпіваць. Добра пацягнуўшы некалькі разоў з пляшкі, яна не адчула ніякага хмелю. Тады ёй ізноў усплыло на памяць, што людзей, якія нап'юцца гарэлкі больш разьбірае ў цяпле. Схаваўшы ў скрыню недапітую пляшку, яна хуценька ўзьлезла на печ і лягла на гарачую цэглу. Так яна праляжала добрых пару гадзінаў, аж пакуль усе вярнуўшыся з царквы селі за стол разгаўляцца. Тады Базыль падыйшоўшы да печы паклікаў яе, але яна нічога не адказала. Аленка ня ўцерпеўшы выскачыла з-за стала й падбегшы да печы засакатала: — «Ну, паненка, ідзі ўжо сьнедаць! Ці можа цябе пад рукі трэба падводзіць да стала?!» Тады бабуля саскочыўшы зь печы плаксівым голасам выказала: — «Можа я й не паненка, але й не твая прыгоньніца! Даволі ўжо вам зь Якубам зьдзекавацца нада мною! Я вас ужо не баюся, бо я п'яная!» Далей з-за сьлёзаў яна не магла больш гаварыць. Са зьдзіўленьнем усе пачалі ў яе дапытвацца дзе яна напілася. Тады яна сказала, што ўзяла грэлку ў Аленчынай скрыні. Тут ужо ня выцерпеў Якуб і накінуўся на Аленку з лаянкай, што яна таемна перахоўвае ў сваёй скрыні гарэлку, ды можа й выпівае. Тая бажучыся запярэчыла гэтаму. Тады бабуля падбегла да скрыні й выцягнула адтуль недапітую пляшку. Пачуўся дружны рогат, бо ўсе пазналі пляшку са сьвянцонай вадой ,якая перахоўвалася ў Аленчынай скрыні. Праўдзівую гарэлку Якуб схаваў у іншым месцы.

(далей будзе.)

---







Уладзімер Глыбінны

## ПАД ЛЕБЯДЗІНЫМ ЗНАКАМ

Аповесьць пра Максіма Багдановіча

### 2. ЗА ПЛЫНЬНЮ УШЫ, ЗА ХВАЛІСТЫМІ ЎЗГОРКАМІ

працяг

11

Той вечар выдаўся на славу. Ліпеньская гарачыня ўжо апала, калі Максім разам з Марысяй і Аксеняй прыйшлі на месца, дзе ўжо зьбіралася мясцовая моладзь. На лузе было цёпла й прыемна. Недалёка стаяла хата Міхальчукоў з пуняй трошкі на водшыбе. Невялічкае ўзышша каля самай пуні магло быць добрым месцам на сцэну для хору. Там ужо стаяла некалькі дзяўчатаў у сьвяточных сукенках. Яны аб нечым ажыўлена размаўлялі. На лузе сядзела колькі хлопцаў, якія таксама, чакаючы выступу хору, час ад часу моцна рагаталі ад пачутых апавяданьняў нейкага балабона. Неўзабаве зьявілася групоўка моладзі з Краснага. Максім некаторых пазнаваў, бо бачыў іх учора. Сярод іх былі й два браты Рыдзьдзеўскія ды іхняя сястра Амэля. Яны таксама прыйшлі сюды з Краснага, каб пабыць у іншым месцы ды асьвяжыцца ад Красьнінскага аднастою. Адразу было відаць, што яны трымаюцца крыху на адлегласьці ад сялянскіх дзяўчат. Іх фанабэрыстасьць выдавала шляхцюкоў. Гаварылі яны, аднак, пабеларуску. Убачыўшы Марысю й Аксену, роўных ім шляхцянак, яны адразу падыйшлі да іх і павіталіся, як старыя знаёмыя. Старэйшы зь іх, Зьдзіслаў, высокі бялявы хлапец з зачэсанай на бок шавялюрай, аж узьвесяліўся, пабачыўшы Марысю.

— Ай, Божачка, каго бачу! Дабрыдзень! Якім ветрам сюды вас занесла зь Вільні?

 

— А звычайным, гэта-ж вакацыі ўжо пачаліся, вось мы да бацькі й прыехалі. Знаёмцеся, гэта пан з па-над Волгі, з далёкага Яраслаўля, хоць да нас таксама зь Вільні прыехаў. Максім Багдановіч, — сказала Марыся й дала знак абоім сыйсьціся ды запазнацца.

— Зь вялікай прыемнасьцяй! Як вас завуць?

— Зьдзіслаў Рыдзьдзеўскі, — прамовіў старэйшы й падаў руку. Падалі рукі і ягоны малодшы брат Андрусь і пекная дзяўчына Ахціся. Яны аж зачырванеліся, вымаўляючы сваё поўнае імя й прозьвішча. Марыся і Аксеня пачалі гутарку з Рыдзьдзеўскімі, зь якімі ня бачылісь ад апошніх Калядаў. Зьдзіслаў задавольваў сябе размовай з новым знаёмым. Максімава форма тужуркі заінтрыгавала яго й падказвала цэлы рой запытаньняў. Дачуўшыся, што той быў у Вільні, пытаўся, як яму яна падабаецца. Расказаў, што яны з братам больш зімовага часу праводзяць у Вільні ў дзядзькі, а часамі туды прыязджае й сястрыца Ахціся.

— А чым вы там займаецеся ў Вільні? — спытаў Максім.

— О, раней хадзілі ў польскую прагімназію, пазьней пакінулі. Дорага плаціць трэба. Цяпер больш дапамагаем дзядзьку Доманту ў ягонай краме. Ён у нас бакалейшчык. Мы заступаем яго, калі ён за таварамі едзе, у краме мяркуем. Ды й так ёсьць што рабіць. А вы, прабачце, студэнт? Якога вучылішча?

— Я толькі што скончыў Яраслаўскую гімназію, а цяпер прыняты ў Яраслаўскі Юрыдычны ліцэй. Вось закончу свой адпачынак тут, ды паеду далей вучыцца.

— Гэта добра, вельмі добра! — радасна прамовіў Зьдзіслаў і раптам змоўк пры напаміне пра сваю прагімназію.

— Ці вы чытаеце якія газэты?

— О, так, чытаем "Віленскі дзеньнік".

— А пра такую газэту чулі, як "Наша Ніва"?

— Не, ня прышлося чытаць.

— Гэта беларуская газэта, на нашай мове, якой мы тут з вамі зараз гаворым.

— Беларуская, мужыцкая значыць газэта.

— Але-ж вы не мужыкі, аднак на гэтай мове гаворыце й не абражаецеся. Ці-ж ня ўсё вы можаце выказаць на гэтай мове? Бачыце, трэба шанаваць родную мову й карыстацца ёю ня толькі ў гаворцы, але і ў друку, у навучаньні, нават у царкве й касьцёле, — гэта-ж мова, на якой пісалася й гаварылася ў канцылярыях і княжых харомах Вялікага Княства Літоўскага, якое было ў сапраўднасьці Беларускай дзяржавай.

— Ніколі такога я ня чуў. Нам настаўнікі нічога такога ў школе не гаварылі. У касьцёле-ж кажуць, што мы адвечныя палякі. Праўда, мы палякамі ня чуемся, але ў кампаніі заўсёды стараемся па-польску гаварыць. Вось да гэтага мы й прывыклі. Магчыма, вашэця, і праўду кажа. Бо й чаму наша горшае за іхняе?

— Ня толькі ня горшае, але, як для нас, дык і лепшае, бо гэта роднае, матчына ды бацькава, — дадаў Максім зь вялікай упеўненасьцяй і верай. Зьдзіслаў задумаўся. Ягоны розум затуманіўся сумленьнямі й дакорамі самому сабе, бо чаму гэта ён гэтак паважае не свае слова, а да свайго ставіцца абыякава. "Ці не ўтрапёнасьць гэтае замяшаньне?" — думаў ён. З гэтага стану няпэўнасьці яго вывелі Андрусь і Ахціся. Тыя тузанулі яго за руку й паклікалі слухаць хор. Марыся і Аксена ўжо былі сярод пявуняў на ўзгорку каля пуні. На лузе ўжо сабралася ладна хлапцоў і дзяўчатаў гатовых слухаць даўно заплянаваны выступ мясцовых самадзейнікаў. Зьдзіслаў, Андрусь, Ахціся й Максім падаліся бліжэй да пуні, каб лепей чуць сьпевы. Апынуліся яны сярод сваіх аднагодкаў, і іхняя мова ўлілася ў гаворку мясцовага люду, нічым ня розьнячыся ад яе. Сабраўшыся ў кола на прыгорку, пявуні пачалі заводзіць гульнёвую песьню "Цярэшка". Калі пачуліся словы "Дзяўчаткі, пралесачкі, ня йдзіце ў арэшачкі...", пачаў сьціхаць гоман сярод хлапцоў. У гармоніі галасоў пявуняў, чуліся й высокія галасы Марысі і Аксены. Слухаючы іх, ніяк нельга было адрозьніць гэтых шляхцянак ад дзяўчат сярмяжнае вёскі. Разам зь іншымі яны сталіся часткай агульнага сугалосься і ўзмацнялі сілу гучаньня народнай мэлёдыі. А калі Марыся з Аксенай зачыналі пяяць "Ці ўсе лугі пакошаны, ці ўсе сенажаці?..", супрацьстаўленьне багатай нявестачкі й беднай сіротанькі гучала шчырым спачуваньнем апошняй.

Багатая, багатырка
Па воліках плача,
А бедная сіротанька
Ў карагодзе скача.

Калі хор пачаў сьпяваць прыпеўкі, жартоўны настрой апанаваў усімі. Тыя, хто слухаў, пачалі падпяваць, і нарэшце ўсе зьліліся ў адзін вялікі хор. Усе прысутныя сумесна й голасна сьпявалі:

Ела, ела саладуху
Дый нака́палася,
Вышла замуж за старога
Дый наплакалася.

Я на ганку стаю,
Сьлёзы коцяцца,
Дзеўкі замуж ідуць,
І мне хочацца.

А скрыпачка, далібог!
Не шкадуй-жа маіх ног!
Мае ножкі не баляць,
Яны хочуць пагуляць.

На вуліцы скрыпка йграе,
Мяне-ж маці ня пускае.
— Пусьці, маці, пагуляці,
Калі хочаш зяця маці.

 

 

 

А я замуж захацела,
Кулём зь печы йзьляцела,
Пакуль зь печы звалілася,
Пра замужжа забылася.

Як я была мала, мала,
Калыхала мяне мама,
Як я стала падрастаць,
Сталі хлопцы калыхаць.
Калыхалі мяне хлопцы,
То ў лукашку, то ў каробцы.

Хадзі, дзеўка, чорнабрыўка
Сьмела ў скокі,
Прышчурыся й вазьміся
Сьмела ў бокі.

Як-бы ў згодзе з заклікам той прыпеўкі, хор запяяў "Лявоніху". І ў такт яе словам усе прысутныя, і малыя, і вялікія, пабраўшыся ў пары, затанцавалі па лузе пяючы:

А Лявоніху Лявон палюбіў,
Лявонісе чаравічкі купіў.
Лявоніха, — душа ласкавая —
Чаравічкамі пальськівала.
Як была ў свайго татунькі адна,
Так як вішанька ў садочку цьвіла.
Дасталася злому духу мужыку,
Ён-жа мяне высушыў, як ліпінку ў духу.
А некаму наказаць, наказаць,
Злога духа прывязаць, прывязаць.
А я татку накажу, накажу,
Злога духа прывяжу, прывяжу.
Наехала повен двор татароў
Дый забралі майго мужа ў палон.
Ды ня шкода, што яго ды забралі,
Толькі шкода, што ня моцна зьвязалі.
Ён, паганец, уцячэць, уцячэць,
Мне галоўку натаўчэць, натаўчэць.
Трэба будзе ўцякаць, уцякаць,
Зь вераб'ямі пад страхою начаваць.
Ой, згубіла мяне мамачка мая,
Што за цябе мяне замуж аддала.
Ой, чаму-ж цябе пярун не забіў,
Як ты мяне маладзеньку згубіў.

Максім наглядаў, як прыгожа хлопцы зь дзяўчатамі выбіваюць нескладаныя такты гэтага скоку. Зьдзіслаў з Андрусям, падхапіўшы сабе вясковых дзяўчат, таксама насіліся віхром у натоўпе. Адна Ахціся стаяла не танцуючы. Максіму было ніякавата стаяць бяз удзелу ў агульным вясельлі. Ён глянуў на сумны твар Ахцісі й запрасіў яе ў скокі. Тая аж заіскрылася ўся ад радасьці. Максім узяў яе за бокі й рушыўся ў такт агульнаму руху. Ніхто не зьвяртаў увагі на некаторую нескладнасьць Максімавых рухаў. Кажны быў заняты сабой. Даравала яму тую нескладнасьць і Ахціся. Яна была поўная ўдзячнасьці за тое, што падзяліў зь ёю радасьць тога завіхрэньня. Яна весела перакідвалася словамі з Максімам і датрымала той вясёлы настрой да разыходзінаў. А разыходзіны пачаліся далёка за поўнач. Марыся і Аксена падыйшлі да Максіма й запрапанавалі ісьці дахаты. Яны былі поўныя нязвычайнае ўзбуджанасьці й выглядалі яшчэ больш маладзейшымі.



Па дарозе Аксена не забылася зачапіць Максіма ягонай увагай да Ахцісі.

— Я наглядала, як вы міла трымалі яе за стан і заглядаліся ёй у вочы, — кінула яна яму, як-бы неўзначай.

— А калі-ж вам быў час наглядаць за мною, калі вы сьпявалі, і я бачыў, што вельмі старанна? — запытаўся Максім. — Ды зрэштай, як было ня пусьціцца ў скокі, калі было так весела, як сьпявалі "Лявоніху". Тут ногі самі прасіліся пусьціцца ў выкрунтасы. А яна, бедная, стаяла сірацінкай, — ня было ў яе пары. Браты-ж адразу пазнаходзілі сабе іншых дзяўчат. А яна была рада мне за тое, што і ёй прышлося паскакаць на гэтым гульбішчы.

— Пэўна-ж рада, — дадала Марыся. — З такім хвацкім панічом давялося паскакаць. Ёй і ня сьнілася такая ўдача. Добра зрабілі, што самі паскакалі таксама, і Ахціся задаволеная. Малайчына!

На гэтым размова пра гэта скончылася. Далей размаўлялі пра агульнае ўражаньне з тога сьпяваньня й забавы. Максім выказаўся аб сваім надзвычайным захапленьні вясковымі песьнямі, аб мілагучнасьці й багацьці рытмаў. Асабліва яму запамяталіся прыпеўкі, поўныя дасьціпнага гумару й непадробнае жартоўнасьці. Тут ён загаварыў пра выдатныя галасы сваіх спадарожніцаў і выказаў колькі камплімэнтаў пра іх здольнасьці. Тыя аж зацьвілі ад радасьці, што нехта так высока цэніць іх вартасьці.

— Мы з малых гадоў сьпяваем у Ракуцёўшчыне зь дзяўчатамі. Любім іх, як самых сябе. Сьпявалі на Каляды, Масьленіцу, вясною, на Купальле й Пятроўку, у жніво, на хрысьцінах, вясельлях ды ў карагодах. Было весела. А цяпер Вільня паглынае час. Толькі ўлетку ды часткава ўзімку на вакацыях і насьпяваешся зь імі. У Вільні таго няма. Там усё больш песьні п'янюгаў сьпяваюць, як сыйдуцца за чаркай. Душа засмалецца можа. Мы сюды як прыязджаем, дык душой адпачываем. Засьпяваем, і ўся істотнасьць нібы праясьняецца, віднымі робяцца чыстыя далягляды. Тады ізноў адчуваецца прыгажосьць жыцьця. Мы вам удзячныя за спачуцьцё.

— Дабранач! Дабранач! — сказалі яму на разьвітаньне паненкі, і паразыходзіліся ў свае пакоі.



 

## 12

Раніцай Максім сьнедаў адзін. Пакаёўка сказала, што Марыся і Аксена ўжо пасьнедалі й пабеглі да суседзяў у фальварак Панятовічаў. А пан Вінцэнты таксама ўжо пасьнедаў, каб быць раней да сонца на полі. Максіму прышлося аднаму пасьнедаць ды пайсьці ў свой пакой. Тут ён ізноў разьлёгся на коўдры свайго ложка й пачаў думаць. Яму прыгадаліся падзеі мінулага вечару, хор Ракуцёўскіх дзяўчатаў, яго новыя знаёмыя Рыдзьдзеўскія ды паводзіны Лычкоўшчанак. З прыемнасьцяй адзначыў сабе тое, што апошнія, дарма, што шляхецкага паходжаньня, ня цураюцца сярмяжнае вёскі й заадно зь вяскоўцамі гуляюць і сьпяваюць. Незаўважна на зьмену гэтым успамінам падыйшлі іншыя. Яму ўспомніўся далёкі цяпер Яраслаўль. Прыгадалася гімназія й сябры, а асабліва адзін зь іх, Мікола Рафаілавач Кукуеў. Як-жа ён добра іграў на скрыпцы. Тая ў ягоных руках, здаецца, галасіла й плакала, калі ён пачне, бывала, вадзіць смычком па струнах. Успомніліся блізьняты Барбара й Рафаіл Кукуевы. Тыя таксама былі музыкантамі з маленства. Яна на альце грала, а хлопец меў спрыт да віланчэлі. Ну а старэйшая Ганна Рафаілаўна, прыгожая й зграбная, з тонкім тварам і цёмнымі вачыма, высокая дзяўчына была добрай піяністкай і выпрабленай наездніцай на коні. Там таксама сьпявалі хорам каля дому Тацьцяны Кукуевай улетку вечарамі, пасьля таго, як нагуляюцца ўдосталь у лапту. Да позна чуліся песьні ў ціхім закутку Какуеўскага дому на ўскраіне Яраслаўля. Яшчэ згадаліся паездкі ў сяло Шчокатава, дзе Тацьцяна мела фальварак зь вялікім фруктовым садам, мноствам кветак ды вялікай сажалкай, па якой дзеці плавалі на лодцы. Там у двары або на сенавале яны тварылі хор і калацілі прастору рознымі песьнямі, а заўсёды канчалі песенькай пра Камара. У Яраслаўскім доме Тацьцяны было прасторна й таму песьні ня сьціхалі нават і ўзімку. Ён успомніў таксама, што ў гульні ў лапту дзяўчаты зусім не адставалі ад хлапцоў. Яны спрытна, адным ударам, выбівалі ўсе чуркі з гарадка, а калі фігура развальвалася, але ўсе чуркі заставаліся ў горадзе, г. зн. атрымлівалася "каша", яны ня менш гучна рагаталі й беглі ізноў складаць фігуру.

Старэйшая ўсяго на пару месяцаў за Максіма, Ганна міжвольна прыцягала Максімаву ўвагу. Ён сачыў за ейнай гібкай фігурай і лавіў таемны агонь у ейных карычневых вачох. Ня было там больш уважлівага слухача ейнае ігры на раялі, чымся Максім. Ён слухаў чудадзейныя гукі, якія вырываліся з-пад пальцаў гэтае маладое істоты, і бегаў па клявішах зрокам усьлед за рукою й запыняўся на кажным супынку іх. Ягоны зрок затым падымаўся да цёмных зорак яе вачэй, і ён адчуваў у іх нязвычнае цяпло новага пачуцьця, якое ахапіла ўсю ягоную істоту. Тады ён употай пісаў ёй верш:

Учора шчасьце толькі глянула нясьмела,
І разьвеяліся хмары змрочных дум.



Сэрца чулае і млела і балела,
Радасьць душу мне шчаміла, быццам сум.

Усё жыцьцё, як лёгкая завея,
Кнігу разгарнуў — а не магу чытаць.
Як зрабілася, што пакахаў цябе я, —
Хіба знаю я? Ды й нашто мне знаць?

Некалі ён пісаў гэты верш для сябе, зьвяртаўся да дзяўчыны на "ты" й на сваёй роднай мове. Ён выказваў у вершах сваю закаханасьць і разам з тым вялікі боль з прычыны, відаць, малых надзеяў і неабходнасьці трымаць свае пачуцьці ў тайне.

Толькі чаму-ж гэта ў ночы глыбокія,
Даўшы спачынак стамлёным вачам,
Я шапачу церaз сны адзінокія:
"Аня... мая... нікому не аддам".

Нікому ён не выказваў сваіх пачуцьцяў. Прыходзіў ад Какуевых дамоў, зачыняўся ў сваім пакоі й на самоце, адзін з сабою аддаваўся марам і лятуценьням аб звычайным чалавечым шчасьці мець дзіця ад любімае жанчыны.

Больш за ўсё на сьвеце жадаю я,
Каб у мяне быў свой дзіцёнак —
Маленькая дачушка-немаўляшка,
Аня Максімаўна,
Такая прыгожанькая,
Цёпленькая, мокрынькая,
З чорнымі валосікамі й броўкамі,
Зь цёмна-карымі вочкамі,
А ручкі, як перацягнутыя ніткамі.
Зусім такая, як вы,
Калі вы былі маленькай дзяўчынкай.

Ганна Какуева скончыла жаночую гімназію на год раней за Максіма й пачала на асеньня-зімовы пэрыяд зьнікаць у Пецярбурскую кансэрваторыю. Максім мог бачыцца зь ёю адно ў часе вакацыяў. Але ейны вобраз жыў у Максімавым сэрцы. Цяпер яму прыгадалася апошняя вясна, калі яна была яшчэ дома. Стаялі сьветлыя, цёплыя вечары на двары Какуевых. Максім кажнага вечару бываў там і гуляў зь сяброўскай кампаніяй у гарадкі. Ганна добра ведала замежныя мовы й часта ўстаўляла ў гаворку замежныя выразы. Максіму яны былі зразумелымі. Ён адчуваў сябе вельмі радасна ў такой сям'і, дзе панавала цяплыня й безклапотная весялосьць. У сваёй хаце Максім быў пазбаўлены ўсяго гэтага: ня знаў ён матчынай ласкі, бо страціў маці ў раньнім дзяцінстве. Бацька вечна быў заняты сваімі клопатамі. Мачыха заўсёды была занятая сваімі пяцёра дзяцьмі. Моладзь у хаце Максіма ня зьбіралася, сябры не запрашаліся. Аддушыну Максім знаходзіў адно ў сяброўстве з Какуевымі ды

яшчэ ў сям'і гімназіяльнага сябры Дзябольскага. У 1910 годзе ў Дзябольскіх зьявілася маленькая пламеньніца Вэраніка, ці Роначка, як звычайна звалі яе. Максму яна надта падабалася. Ён заўсёды размаўляў зь ёй і прынёс ёй заалягічны атляс з малюнкамі зьвяроў. Роначка любіла ў крэсьліку разглядаць тых зьвяроў і сустракала Максіма шэптам: "Махім прыйшоў". Ён пачаў шукаць і заўважаць у рысах і руках дзяўчынкі жаночае й мацярынскае, як выяўленьне "новай пекнасьці жывой". Цяпер, калі перад ім ізноў зьявіўся вобраз каханай ім Ганны Какуевай, на вусны пачалі прасіцца радкі паэмы пра яе, ён не задумваючыся надаў ёй імя Вэранікі. А каб яшчэ лепш схаваць сакрэт тога правобраза, ён узяў эпіграфам словы Джавані Працы з паэмы "Армонд": "Яна — выдумка маёй галавы".

Ураз ягонаму ўяўленьню прыйшоў, як жывы абраз, той старасьвецкі дом, увесь у суценьнях адзічэлы сад, абгароджаны старым тынам, са шпакоўніцамі ўгары. Ён прыдумаў гаспадарамі паноў Забелаў, у суседзкім доме якіх ён праводзіў сваё дзяцінства, лазіў па дахах, рваў яблыкі й рабіў цэлы вэрхал.

Вясёла йшлі гулянкі нашы:
Пад шум і гук размах рукі
Зьбіваў здалёку гарадкі,
Быў чутны сьмех пры відзе "кашы",
І кажны стрымываў свой плач,
Калі ўразаўся ў плечы мяч.

А вечарком мы выпускалі
Ў паветра белых галубоў.
Зрабіўшы некалькі кругоў,
У вышыню яны шыбалі,
Як чысты сьнег, кружылі там
І падалі на дахі к нам.

Калі-ж сачыўся бледнаваты
Зор сініх сьвет праз небасхіл
І уплятаўся вулак пыл, —
Мы ўсе пяялі каля хаты,
І напаўняў нягучны хор
Маркотнай песьняй сьціхшы двор.

Дарма, што дзяцінства Максіма было больш ціхім, і ён зусім ня быў такім гарэзай і дурасьліўцам, як тут малюецца, аднак яму было прыемна цяпер праз смугу часу паэтызаваць сваё свавольства, тым больш, што гэта было добрым фонам, каб паказаць, якім самотным было дзяцінства яго гэраіні.

Жылося цяжка Вэраніцы
(Хай так дзяўчыну будзем зваць):
Яе памерла рана маць...

Яна з маленства палюбіла адзіноту, хавалася ад жыцьцёвага шуму



ў стары сад, дзе быў нярухомы спакой, маўляў у глыбіні марской.

Кіпіць шум места дзесь там далей...

Гэта шумеў Яраслаўль, вялікі горад на Волзе. А побач у цішы сярод зёлак і кветак, пад кустом шыпшыны дзікай, дзе пах тонкі хмель і бруяў сонны чмель, з кніжкай у руках забывалася аб усім іншым, акрамя думак аб прачытаным, Максімава Вэраніка. Увосені яна зьнікала ў інстытут і не будзіла па сабе згадак. Аднак гады бяруць сваё. Дзеці пакідаюць "гарадкі й галубоў", хлопцы ўжо шчыпаюць свае вусы й лічаць іх "гарой красы". Гэрой закахаўся ў пекную Вэраніку й піша ёй верш аб сваіх пачуцьцях. Доўга чакаў адказу, яго ня было. Нарэшце спатыкаецца зь ёю. Вэраніка сьмяецца "бязьвінным чыстым сьмехам", на які "злавацца — грэх". Ён выдаўся Максіму сьмехам "яснае душы".

І ён, як жаваранак той,
Зьвінеў і ўжо каханьня сеці
Нячутна нішчыў, як ураз
Сарваўся, здрогнуў і пагас.

Накрыла ясны твар дзявочы
Задумы сумная імгла,
На плечы ручка мне лягла,
Спагадліва зірнулі вочы,
І даляцеў к маім вушам
Ласкавы шэпт: "Мо прыкра вам"

Максім прыгадаў цяпер пра тое, што некалі ён падоўгу ўглядаўся ў рэпрадукцыю малюнку Рафаэля "Сыксцінская мадонна", што вісеў у іх доме на сьцяне. Той малюнак заўсёды паклікаў да яго вобраз ягонае рана памерлай маці й разам з мадоннай яны тварылі ідэал харастве й дабраты, вобраз прыгажосьці й мацярынства. А цяпер у творчым уяўленьні ізноў паўстаў перад ім, заіскрыўся новымі фарбамі вобраз Вэранікі, як падвоенай красы ў адным абліччы. І ён міжвольна параўноўваў яго з Рафаэляўскім малюнкам.

І мела дзеўча выгляд маці,
Калі тады ка мне яна,
Трывожнай ласкаю паўна,
Сьхілілася, як да дзіцяці,
Зіяючы перада мной
У новай пекнасьці жывой,

У тэй, што з постацьцю дзяўчыны
Зьлівала мацеры чырты.
О, як прыгожы-дзіўны ты,
Двайной красы аблік адзіны!
Ажыў у ім твой вечны цэль,
Мадон тварыцель, Рафаэль!

Максіму стала так хораша ад таго, што яму ўдалося знайсьці вычарпальнае параўнаньне сваёй гэраіні зь ідэалам выяўленага характва ў сусьветна ведамым Рафаэлявым творы, што ён сьхіліўся перад запаленым у яго сэрцы агнём. Гэты агонь будзе вечна гарэць у ягоным сэрцы й сьвяціць у мораку ночы жыцьця. Ён перачытваў радок за радком і верыў, што тое сьвятло будзе яго весьці да Парнаса й на ўзвышшы тога духу, якім ён праняўся, абраўшы нялёгкі шлях беларускага паэты забранага краю. Пасьля, задумаўшыся, што нешта падобнае ён ужо выказваў у вершы "У вёсцы", ён наважыўся назваць іх разам "Мадоннамі", а прысьвяціць іх Ганьне Какуевай. "Хаця-ж пісаць поўнасьцю імя й прозьвішча няварта. Абмяжуюся адно літарамі: А. Р. К." На гэтай наважанасьці ён устаў з-за стала, пацягнуўся, разьмяў ногі і яшчэ з натхнёным тварам выйшаў у гасьцінную.

13

Яго сустрэлі з воклічамі. Марыся і Аксена абедзьве, бадай што разам, усклікнулі:

— А мы вас даўно чакаем! Каб не турбаваць, не перашкаджаць вам пісаць, мы ня стукалі ў дзьверы. Добра, што самі выйшлі.

— Так, прыйшло натхненьне і я напісаў паэму, якую ўжо даўно абдумваў, нават пачынаў, але ніяк ня мог засесьці за стол, каб канчаткова надаць ёй форму.

— А што вы пішаце цяпер? Цікава было-б ведаць, а можа й пачуць, — выказалася маладзейшая Лычкоўшчанка. Але яе пытаньне перапыніла Марыся сваёю заўвагай.

— Пачакай з гэтым, я хачу пазнаёміць пана Максіма з каляжанкамі-суседкамі, — сказала Марыся й падвяла да Максіма дзьве маладзенькія паненкі, прыблізна свайго ўзросту. Тыя, саромячыся, супыніліся крыху наводдалі ад Максіма й прыхавалі свае пагляды, апускаючы іх долу. Але на Максіма найшла раптоўная сьмеласьць і ён сам першым працягнуў ім руку й назваўся.

— Максім Адамавіч Багдановіч!

Дзяўчатам не заставалася нічога іншага, як назваць сябе.

— Юзэфа, з дому Касьцюковічаў.

— Мальвіна, з таго-ж дому,— прамовіла тая, што выглядала крыху маладзейшай, і тут-жа дадала:

— Але называйце мяне Мальвай, гэтак, як у хаце мяне называюць. Так мне прыямней.

Тым часам пакаёўка пачала разносіць стравы на абед. Максіма пасадзілі паміж ягонымі новымі знаёмымі.

— Я ўжо другі месяц тут, а вас бачыць не давялося.

— Ды мы толькі-толькі прыехалі зь Вільні. Там бадай што ўвесь год жывём у цёткі Анэты. Яна мае вялікі дом на вынаймы. Вось мы ёй і дапамагаем спраўляцца з кватарантамі. Увесь час занятыя, толькі цяпер вырваліся на адпачынак да бацькоў. Гэта-ж мы адсюль



зусім блізка жывём. Толькі за лесам ня бачна нашага дому. А той сьцежкай за крыніцай, праз лес да нас за пяць хвілін зайсьці можна, — сказала Юзэфа, відаць, больш сьмелая й гаваркая.

— Але мы ніколі праз той лес ня ходзім. Там можна страхаў напаткаць, — дадала Мальва, нешта пэўнае маючы на ўвазе. — І дарогай за чвэртку часу дайсьці можна. Тут рукой падаць да нас, якіх з паўвярсты, усяго.

Максім пахваліў дзяўчат за добую беларускую мову. Юзэфа, як ў апраўданьне, паясьніла:

— Ды мы з маленства адно гэтак па-простаму й размаўляем. Толькі пазьней ужо ў Вільні навучыліся па-польску. А цётка й цяпер добра па-польску ня ўмее. Пачынае нібыта па-польску, аднак заразжа зблытаецца й пачынае панашаму гутарку весьці. Але ўсе ў Вільні разумеюць яе, бо ўсе бадай-што такія самыя: у галаве родныя словы, а на языку пальшчызна ці русыцызна. Мы да гэтага прывыклі. Дзекаторыя людзі з Варшавы й пасьмейваюцца з нашае мужыцкасьці, але нам гэта дарма. Усе кватаранты, нарэшце, бываюць задаволенымі. Справа ідзе добра, бяз працы не сядзімо.

Хацеў яшчэ Максім запытаць, як яны са сваімі кавалерамі размаўляюць, але не адважыўся бянтэжыць дзяўчатаў зь якімі вось толькі што запазнаўся.

Пасьля абеду моладзь пайшла ў пагулянку. Юзэфа з Мальвай гэтак абазналіся з Максімам, што праняліся поўным даверам да яго й усю дарогу весела жартавалі зь ім аб усім бачаным. Яны тут доўга ўжо ня былі і ўсё выдавалася ім новым і нязвычным. Па дарозе зьбіралі краскі, і Максім часам падносіў ім у букет сарваную далей ад дарогі кветку. Яны прымалі з удзячнасьцяй увагу маладога чалавека. Толькі Аксена неяк употай крывілася, калі новым знаёмым Максім аддаваў больш увагі, чымся ёй.

Яны расьселіся на нізкім беразе Ушы й пачалі прасіць Максіма прачытаць ім нешта зь яго твораў.

— Мы чулі, што вы пішаце ў ксёнжкі. Пачытайце нешта й нам, а мы з удзячнасьцяй паслухаем. Калі ласка, просім вас, — сказала Юзэфа.

— Просім! Просім! — загаварылі ўголас усе разам.

— Я пішу вершы. А ў "ксёнжкі" ніякія я ня пішу. Кнігаў яшчэ ня маю, хоць маю намер сабраць свае вершы й выдаць іх асобнай кнігай. Але гэта ў будучыні. Вось я прыгадваю тут напісаны мною, у вашай-жа вёсцы, верш "Слуцкія ткачыхі". Магу яго прачытаць, калі не пярэчыце.

— Просім, просім, калі ласка, прачытайце, — загаварылі ізноў усе дзячаты.

Максім на хвілінку супыніўся, як-бы зьвяраючы, ці ўсе радкі ўляглiся ў галаве. Потым спакойным, мілагучным голасам, часам з напевам, прадэклямаваў верш пра долю беларускіх дзяўчат з прыгонных сялян, якія супраць волі ткуць на паясах пэрсіцкі ўзор, але задумаўшыся, пад узьдзеяньнем красы родных палеткаў, вытыкаюць

узор роднае кветкі — васілька. Дзяўчаты ўпяршыню пачулі ў іх роднай мове такі прыгожы верш. Ім усім надзвычай спадабалася гэтая песьня, як яны называлі гэты верш. Прасілі прадэклямаваць больш. Максім пачаў успамінаць кагадзе напісанае вершаванае апавяданьне "Вэраніка" й пастараўся расказаць урыўкі пра дачку паноў Забелаў.

... Калі-ж асеньнія навіны
Зьмянялі сад, калі зь бяроз
Рваў лісьце вецер, а мароз,
Наліўшы ягады рабіны,
Траву губіў, і мы нагой
Ўзрывалі прэлы лісьця слой;

Калі патроху чырванелі
Чаромха, ліпа, стройны клён,
А гнёзды змрочныя варон
Між голага гальля чарнелі,
І грозны вечару пажар
Пылаў між бура-шызых хмар;

Калі асеньні вецер дзіка
Стагнаў і глуха па начах
Грымеў у наш жалезны дах, —
Тады да лета Вэраніка
Ад нас зьнікала ў інстытут
І не будзіла згадак тут.

Дзяўчатаў ува ўсёй апісанай гісторыі Вэранікі найбольш крануў рамантычны бок, як герой чакаў адказу, а Вэраніка насьмяялася з паэтычных практыкаваньняў. Меншую-ж Лычкоўшчанку больш кранула, як гераіня абдумалася й спагадліва перапрасіла словамі "Мо прыкра вам?" Але зусім дзяўчаты абыйшлі моўчкі паранаўнаньне двайной красы — дзяўчыны й маці — з мадонай Рафаэля.

Максіму было прыемна, што ўсё-ж такі даходзіць паэма да зразуменьня маладых дзяўчатаў, а што да галоўнае думкі твору, дык некалі яны дарастуць і да гэтага. Тут патрабуецца больш адукацыі. Родная школа магла-б гэта зрабіць. Так у ягонай сьведамасьці вырастала й ўмацоўвалася ідэя навукі на роднай мове.

Дзяўчаты дзякавалі Максіму за пачутыя творы. Адна перад другою яны стараліся запэўніць, што хоць упяршыню яны бачаць і чуюць беларускага паэту, але ўсё гэта ім прышлося да душы. А Аксена выказалася, што ўжо надта добра ў творы паказана закаханасьць аўтара.

— Вы-ж пэўна пра многае не гаворыце ў гэтым творы, раскажыце, у каго гэтак вы былі бязьлітасна закаханыя, што нават ёй вершы прысьвячалі? — запыталася яна й пачала глядзець проста ў Максімавы вочы. Яна спадзявалася пачуць цікавую гісторыю каханьня.

— Яна выдумка маёй галавы, — сказаў Максім. — Я і эпітэтам



узяў такія словы, каб спыніць розныя дагадкі. У мастацкім творы можа быць выдумка, ды часьцей гэтак і бывае, — дадаў даволі паважна Максім. Яго заява як-бы падрэзала крылы лятуценьням Аксені. Яна адразу перавяла сваю ўвагу на іншае. Дзяўчаты заўважылі зьбянтэжанасьць Аксені й кажная сабе падумала: "Вось, на табе, за шмат захацела ведаць. Ды ці не занадта яна чапляецца да паэты з каханьнем. Ці не закахалася сама, чаго добрага, зь ёю можа такое стацца". Так думала аб Аксені і ейная сястра Марыся. Але пра гэта не падавала ніякага выгляду. Яна ведала, што гасьцяваньне Максіма падыходзіць да канца. Паничу трэба ўжо зьбірацца да ад'езду. Ужо не да заляцаньняў яму. Ды й з твору відаць, што ён быў закаханы, і мусіць мае недзе таямнічую каханую. Ня трэба дарэмна сэрца цьвяліць. Можа варта неяк сястры падказаць, што дарэмная тая фатыга.

У жвавых гаворках дзяўчаты з Максімам дайшлі дадому й трапілі якраз на гатовую вячэру. Пры вячэры не абышлося й бяз чаркі, якая прыдала ўсім апэтыту ды большае ахвоты да вясёлых гутарак. Ізноў і ізноў прасілі Максіма дэклямаваць яго творы, і ён разказаў некалькі вершаў пра Вільню, якія ўсім вельмі спадабаліся. Толькі пазна ўначы ён пайшоў у сваю камору, распрануўся й лёг спаць.

## 14

Ліпень выдаўся не адно гарачым ,але й гаманлівым у хвальварку Лычкоўскіх у Ракуцёўшчыне. Аднаго дня апаўдні на летаваньне зьявіліся аж дзьве новыя жаночыя постаці. Прыехала Вінцэнтава цётка Ядвіся Русецкая, з дому Лычкоўская, жывая, рухавая й гаваркая жанчына, крыху за трыццаць — у самым прывабным для жанчыны веку. Зь Менску з маленькай дачушкай Янінай прыехала ў госьці Міля, сястра Антона й Івана, з дому Луцкевічаў. Яны напоўнілі дом Лычкоўскіх вясёлай гаманой. Ад раньня да глыбокае начы ў хаце й наўкола дому чуліся жаночыя альты, перабіваныя гучным дзіцячым віскливым галаском. Чуліся яны абедзьве як гаспадыні дому, з правам сястры і дачкі Зосі Лычкоўскай, ці Луцкевічыхі па чалавеку, колішняй уладальніцы гэтага хвальварку. Яны ведалі ў Ракуцёўшчыне кажны куточак, у хаце — кажную шчыліну. Калі па сьнеданьні бліжэй запазналіся з паэтам, яны адразу запрапанавалі пагулянку разам на рэчку, каб паплаваць на чаўне.

— У пана Франука там добры на колькі асобаў човен. Дык па дарозе мы дамо знаць пра сябе, што прышлі на ягоным чаўне паплаваць. Ён ніколі не адмаўляе ў гэтай забаве, — сказала байчэйшая на язык Ядвіся.

— Вось добра будзе маёй Яніне пасядзець у мяне на руках на чаўне. Яна яшчэ гэтага ніколі не зазнала, — дадала Міля і тут-жа гукнула малую. Падбегла невялічкая русавая дзяўчынка, так на ґады два з паловай, у прыгожай сукеначцы ружовага колеру. Бліснула сваймі блакітнымі вачанятамі на Максіма.

— Гэта наша Янінка-непаседа-круцёлка, — сказала ўсьміхаючыся Міля. — Падай, дзетка, ручку пану Максіму.

Дзяўчынка запынілася ў нерашучасьці каля маткі і быццам раздумвала, рабіць тое, што маці кажа, ці схаваць твар у матчыну спадніцу. Але Максім вывеў яе з тае нерашучасьці. Ён сам наблізіўся да малой і жартоўна сказаў:

— А я цябе бачыў ужо, як ты з цёцяй Ядвісяй і мамай прыехала ды несла на руках свайго мядзьведзіка. А цяпер ты зь ім разлучылася. Ты яго, відаць, на ложку пакінула. А ён возьме ды ўцячэ ў лес да сваіх родзічаў. А тут яму недалёка бегчы, густы лес пад бокам.

Янінка задумалася. Напачатку ў вачох блiснуў як-бы нейкі спалох. Максім заўважыў яго і пасьпяшаўся супакоіць дзяўчынку.

— Ну, то нічога. Я табе дапамагу злавіць яго ды прымасьціць яго ізноў на твой ложак.

Тым часам дзяўчынка адумалася і, як-бы наўзнарок, пралепятала:

— Гэта толькі цацка, каб гуляць.

— Дык ты разумніца, я бачу. Запраўды, цацка не ўцячэ, баяцца ня трэба. Дык давай з табой сябраваць. Я Максім, ты — Яня, вось і будзем сябрамі навек. Добра?

І ён працягнуў да яе сваю руку. Не бязь хістаньня, аднак, як праяву сваёй згоды, яна высунула ўперад сваю маленькую бялява-ружаватую ручку. Максім далікатна ўзяўся за яе і трохі, для замацаваньня ўмовы, патрос яе ў паветры. Дзяўчынка канчальна асьмялела перад кагадзе незнаёмым ёй дзядзькам Максімам ды пачала насіцца вакол, быццам тут для яе ўжо ня было незнаёмых.

Перад тым, як падацца на тое плаваньне на чаўнох, кажны яшчэ пасьпеў забегчы да сябе, каб быць апранутым больш адпаведна пагулянцы. Жанчыны выйшлі ў саламяных капялюшыках ды лёгкіх сьветлых суленках, аднаго колеру й крою, як-бы падкрасьляючы тым падабенствам роднасьць пляменьніцы й цёткі. Адно на нагах былі пантофэлькі рознага крою й колеру. Здалёку, калі-б была патрэба вызначыць якую зь іх паводля фігуры, дык ня надта лёгка гэта было-б зрабіць — абедзьве сярэдняга росту, статныя постацямі, з круглавата-падоўжнымі тварамі ды асаблівай здольнасьцяй неяк ісьці нага ў нагу й лёгка несьці свой прыгожы стан. Цяпер Максім у такім разе пазнаў-бы Мілю паводля колеру ейных пантофэлькаў, а Ядвісю хіба пазнаў-бы паводля рудога колеру абутку. Аднак не давялося гэтага рабіць: трымаліся разам.

Калі йшлі ў бок Вушы, прыгожыя краявіды натхнялі на лірычную адкрытасьць. Пачалася гаворка пра паэтаў. Ядвіся й Міля, як згаварыўшыся, надта выхвалялі вершы расейскага паэты Надсана. Ім былі даспадобы любоў да народу, да братоў-пакутнікаў, заклік да вялікага чыну ў імя сьветлых ідэялаў. Верш “Друг мой, брат мой, усталый, страдающий брат”, поўны веры, што настане пара, калі ня будзе на сьвеце “ні сьлёзаў, ні варажнечы”. Тэма грамадзкага аба вязку разам з тэмамі трагічнага гібеньня чалавека, матывы журбы й смутку, што ахварбоўваюць усю пэйзажную і любоўную лірыку Надсана, краталі струны сэрца гэтых жанок. Ім адпавядалі матывы скрушы ўсіх надзей, сумляваньня й зьбянтэжанасьці перад жыцьцём, ноты прымірэньня з супярэчнасьцямі яго. А галоўнае, даступнасьць і праставатасьць формы падкуплялі жаночыя пачуцьці. І калі Міля пачала голасна дэклямаваць верш Надсана, “Не вини меня, друг мой, я сын наших дней, сын раздумья, тревог и сомнений”, Максім шчакаў заканчэньня, а тады выказаўся, што адно пакладзеныя на музыку Кюі, Рахманінавам, Балабанавам і Спэндыяравам такія рамансы, як “В тени задумчивого сада”, “В роще зеленой, над тихой рекой” або “Грезы” (“Мне снилось вечернее небо”) ды некаторыя іншыя песьні і падабаюцца яму. Аднак, ён зусім адмоўна ставіцца да ўсяго Надсана

— Гэта была хвароба часу заўсёды й пры кажнай нагодзе ныць і выказваць жалобу, жаліцца на зьнямогу, расчараваньне, зьбянтэжанасьць, — скончыў Максім сваю думку пра Надсана. У сэньсе вершу Надсан не пайшоў далей за Някрасава й свайго настаўніка ў літаратуры Пляшчэева. Нездарма крытыкі Міхайлоўскі, Шалгуноў і Якубовіч уважалі Надсана паэтам тэндэнцыйным з грамадзкімі матывамі. Але такія паэты не збагачаюць вялікую літаратуру. Ужо ў нашым часе паэты-сымбалістыя В. Брусаў і А. Блок робяць куды больш, каб павесьці далей ды ўзбагаціць пушкінскую традыцыю тварэньня вялікай, на падставе сусьветнай спадчыны, літаратуры, што ставіць і нас, Славянаў, у шэрагі тварцоў сусьветных мастацкіх вартасьцяў агульна-людзкога значэньня. А Надсан у гэтым дачыненьні роўны нулю, — абагуліў свае разважаньні Максім.

— Вы занадта суровы крытык, аднак пасьля Вашага разносу паэзіі Надсана я ня буду менш любіць яе, — выказалася Міля.

— У шчырасьці й сумленнасьці на сяньня няма роўнага Надсану паэты, — сказала Ядвіся з глыбокім перакананьнем. Тады абедзьве жанчыны пачалі наперамену адна па аднэй чытаць вершы Надсана. Максім слухаў і шкадаваў, што яны яшчэ не ўзьняліся гэтак высока, каб не абмяжоўвацца ўзроўнем Надсана. А калі пачалі падавацца цытаты зь вершаў пра каханьне, Максім згадаў, што паэзія Надсана, як чалавека-сухотніка, мае зашмат у сабе непрыхаванай эротыкі, якой і падказаныя шмат якія вершы. Ён не захацеў удавацца ў падрабязнасьці, каб не паставіць жанок у далікатную сытуацыю. Сытуацыі дапамагла маленькая Янінка. Тая ўвесь час бегла ўперадзе, зрывала абапал дарогі кветкі й тут-жа зараз кідала іх на дол. Але змораная аднастайнасьцей гэтага занятку, раптам запынілася, дачакалася маці ды папрасілася на рукі.

— А наседзішся зараз, ужо вось блізка і той бераг з чаўном, — адказала Міля.

І запраўды, зараз-жа з-за зялёнага хмызьняка заблішчэлі воды хуткаплыннай Вушы. Неўзабаве усе падарожнікі выйшлі на квяцісты луг і па ледзь пратаптанай сьцежцы пайшлі ў бок вады.

У Янінaчкі зноў аднекуль зьявіліся сілы бегчы ўздоўж лугавіны ды зьбіраць гэтым разам іншыя кветкі. Толькі яна іх ня кідала цяпер, а

зьбірала ў левую руку і ўжо перад самою вадою падбегла да Максіма ды працягнула да яго прыгожы букецік рознакалёрных красак.

— О, дык ты кемлівая паненка, кветкі падносіш свайму сябру! — выгукнуў Максім, узрушаны ўвагай малой да яго. І ён асьцярожна ўзяў дзяўчынку пад пашкі ды прыўзьняў над сваёй галавой.

— Расьці вялікая і разумная, каб далёка бачыць і добра ўсё ра-



Дом у фальварку Лычкоўскіх у Ракуцёўшчыне каля Краснага. У маленькім доме, зьлева, улетку 1911 г. жыў Максім Багдановіч. Пасьля вайны маленькі домік зьнесены, а галоўны дом нанава перабудаваны. Малюнак з памяці Лявона Луцкевіча.

зумець, — сказаў Максім пры гэтым ды шпарка пакруціўся, апісаўшы дзяўчынкаю ўверсе вялікае кола. Яна голасна сьмяялася ад узбуджаньня, голас яе будзіў палёвую цішу і надаваў жыцьцёвага імпэту таму дню на квяцістым беразе Вушы. Калі Максім апусьціў Яню да долу, яна адразу-ж папрасіла:

— Яшчэ хачу, яшчэ, яшчэ падымеце, дзядзя Максім, мяне ўгару.

(Працяг аповесьці будзе ў асобнай кніжцы, якая ўжо друкуецца)

## ІГНАТ КУЛАКОЎСКІ — БЕЛАРУСКІ АСЬВЕТНІК

Здрадніцкі лёс хацеў кінуць гэтага чалавека ў цемень забыцьця. Аднак дзякуючы пакуль што першым намаганьням дасьледчыкаў, перад намі высьвечваюцца рысы непаўторнага жыцьця. Ігнат Кула-



коўскі быў адным зь ідэялёгаў адраджэньня Беларусі ў сярэдзіне XIX стагодзьдзя. Яго сучасьнік Адам Кіркор, беларускі краязнавец, этнаграф, археёлаг, літаратар, пералічваючы беларускіх гісторыкаў, з павагай назваў і гэтае імя. Як гісторык, асьветнік і заступнік свайго народу Ігнат Кулакоўскі ў пісьме 1834 году на імя міністра асьветы Расеі даводзіў пра неабходнасьць даць адукацыю народу, і не проста адукацыю, а з ухілам нацыянальнай самабытнасьці тутэйшых людзей. Ён напомніў вяльможнаму саноўніку, што нават векавое знаходжаньне беларусаў пад уладай феадалаў і рускіх чыноўнікаў, а таксама сваіх здрадлівых панкоў і падпанкаў не заглушыла нацыянальнай самасьведамасьці.

Асьветнік быў узрушаны і абураны наступам палітычнай рэакцыі, нічым не прыкрытага вялікадзяржаўнага шавінізму, хваляваўся за пагрозу дэнацыялізацыі беларусаў. Патрыёт свайго краю пасьлядоўна пераконваў у неабходнасьці вывучэньня мовы народу, этнаграфіі, мастацтва, мясцовых старажытнасьцяў, а таксама гісторыі. І як выхад з заганнага становішча — прапануе стварыць спэцыяльны падручнік “Гісторыя краю”.

Такія просьбы ў Міністэрства асьветы Ігнат Кулакоўскі зьвяртае ня раз, але яны, як і многае іншае ў гэтых адносінах, заставаліся безвынікоўымі. У 1855 годзе ён асабіста адправіўся ў Пецярбург, каб з вока на вока давесьці свае перакананьні й дамагчыся вырашэньня просьбы.

Біяграфічных зьвестак засталося вельмі й вельмі мала. Толькі некаторыя рыскі зь яго жыцьця трапляліся ў тагачаснай перыёдыцы. У сваёй публікацыі “У неспакойным стагодзьдзі” я ўспомніў імя І. Кулакоўскага сярод актыўных памочнікаў Віленскага музэю старажытнасьцяў. Як водгук на тую згадку атрымаў пісьмо ад праўнучкі Кулакоўскага — Людвікі Войцік-Сівіцкай, якая яшчэ ў дарэвалюцыйны час выступала ў беларускай літаратуры пад псеўданімамі Мірко й Зоська Верас. З дапамогай Людвікі ўдалося запоўніць некаторыя біяграфічныя прабелы гэтага выдатнага чалавека.

Ігнат Кулакоўскі нарадзіўся ў 1800 годзе ў вёсцы Янаўшчына Пружанскага павету Гродзенскай губерні ў вялікай патрыярхальнай сям'і беларускага шляхціца. Прыблізна ў канцы 1818 году закончыў Сьвіслацкую гімназію й паступіў у Варшаўскі ўнівэрсытэт. У 1829 годзе лёс зьвёў яго з парыжскай прыгажуняй з вытанчаным сьвецкім выхаваньнем Юзэфай Стабельскай, у якой і ў галаве ня было займацца гаспадаркай, хатнімі клопатамі. Сам-жа І. Кулакоўскі поўнасьцю прысьвяціў сябе пэдагагічнай працы, стаўшы наглядчыкам гродзенскіх павятовых вучылішчаў, потым займаў шэраг пасадаў у дырэкцыі вучылішчаў.

Будучы вельмі простым у асабістым жыцьці і ў абыходжаньні зь людзьмі, ён вызначаўся дзіцячай даверлівасьцю. Дзьверы ягонага дому былі адчынены для ўсіх. Многіх наведвальнікаў абнадзейвала й прыцягала да сябе яго шчодрая дабрата й мудрасьць дарадчыка. Зьнешняя прыцішанасьць і пастаянная далікатнасьць не заўсёды ад-

павядалі яго душэўнаму настрою, асабліва, калі гутарка датычылася сацыяльных і нацыянальных праблемаў роднай старонкі. Пераехаўшы ў маёнтак Крыштапарова (Хрыстапорава) Сакольскага павету Гродзенскай губерні, пачаў сваю гаспадарчую дзейнасьць з таго, што надзяліў навакольных сялян зямлёю. Так паўстала на яго нівах цэлая вёска Пагаране.

Прайшоў той даўні час, зьмянілася не адно пакаленьне пагаранцаў, але імя заступніка й дарадцы жыве й зараз у памяці нашчадкаў. Магіла, у якой з 1870 году спачывае Кулакоўскі, і сёньня дагледжана, прыладжана.

Удалося высьветліць яшчэ некаторыя зьвесткі з жыцьця Ігната Кулакоўскага на Беласточчыне. У вясковай цішы Крыштапарова жылі стала жонка, сын і тры дачкі, сам-жа ён кватараваў у Беластоку. Пазьней нават узначаліў інстытут "благородных девиц". Пасьля сьмерці педагога засталіся вялікая эпісталярная спадчына, рукапісы яго навуковых прац, багатая бібліятэка, антыкварныя рэчы, музэйная калекцыя, даволі арыгінальная розная мэбля. Сын-жа, афіцэр рускіх уланаў, любіў гульнуць, не прымяркоўваючыся да заўтрашняга дня, і такім чынам залез у даўгі. Гэта азначала, што ўся бацькава ўласнасьць магла загінуць. Акурат знайшоўся прадпрыемлівы сваяк Любамір Гансоўскі, які дарадзіў дочкам Кулакоўскага ўсё распрадаць. Сам-жа ўвішны сваяк у шапку ня спаў: перавёз да сябе дамоў мэблю ў стылі ампір, прыхапіў антыкварныя скарбы, а магчыма й бібліятэку Ігната Кулакоўскага. Зараз пра гэта ўспомніць проста неабходна, бо ніхто ня ведае, дзе падзелася тое багацьце, сямейныя рэліквіі.

Дочкі І. Кулакоўскага вучыліся ў Варшаве й Кракаве, павыходзілі замуж. Жылі ў Путнаўцах (каля Крыштапарова), паміж Беластокам і Саколкай, у Гожцы над Нёманам, пазьней у Дубніцы і Альхоўніках. Унучка Кулакоўскага з 1904 году трымала тайную школу для сялянскіх дзяцей, а як даведалася, што выдаецца "Наша ніва" й беларускія календары, стала актыўна дапамагаць.

У Вільні, у доме, які займае праўнучка І. Кулакоўскага Людвіка Сівіцкая, над яе канапкай вісіць даўні жывапісны партрэцік прадзеда, а ў шкатулцы як самае запаветнае — рэдкія фотаздымкі. Сярод іх была фатаграфія Ігната Кулакоўскага сталага веку. Людвіка як памятку далёкіх часоў захоўвае томік выбраных твораў Адама Міцкевіча, які выйшаў у Парыжы, пры жыцьці аўтара. Гэта з асабістай бібліятэкі Кулакоўскага. Сямейная рэліквія й дыплом аб выбраньні дасьледчыка беларускіх старажытнасьцяў і педагога І. Кулакоўскага сябрам навуковага таварыства ў Даніі. Зрэшты, наш герой удастойваўся такога гонару і іншымі навуковымі таварыствамі: у Вільні, Варшаве, Пецярбурзе. Усё гэта надае яшчэ большую цікавасьць спадчыне й самой асобе навуковага, культурнага, асьветніцкага й грамадзкага дзеяча Ігната Кулакоўскага.

Генадзь КАХАНОЎСКІ



## СЁЕ - ТОЕ. . . і яшчэ НЕШТА. . .

**Хочаш, каб цябе не перабівалі — маўчы.**

Часам, каб утрымацца на нагах, трэба ўзяць сябе ў рукі.

**Калі ты прызнаўся ва ўласнай баязьлівасьці — лічы, што зрабіў сьмелы ўчынак.**

Ён працуе як конь, каб зарабіць грошы, якія выдае, як асёл.

**Ніколі не пазычай грошай прыяцелям, — гэта руйнуе іхную памяць.**

Была машыністкаю. Вышла за начальніка. Цяпер яна яму дыктуе.

**Часам, каб злавіць адзін міг удачы, не хапае ўсяго жыцьця.**

Заўсёды прыслухоўваўся да голасу сумленьня. Але толькі для таго, каб зрабіць насуперак яму.

**Замочваў кіраўнічую пасаду, а падмачыў асабістую рэпутацыю.**

... Хваліўся тым, што яго вывелі праз парадныя дзьверы.

**Не паўтараўся. Кажны раз рабіў новыя памылкі.**

Найлягчэй знайсьці сьведкаў, якія нічога ня бачылі.

**Факты — рэч упартая, але людзі бываюць яшчэ больш упартыя.**

У кажнага свая ахілесава пята. У некаторых — гэта галава.

**Са старога льва нават шакалы зьдзекуюцца.**

Не прыкідвайся часта дурнем, інакш развучышся быць разумным.

**Ішага сьпевака лепш сем разоў пабачыць, чым адзін раз пачуць.**

Тых, што ведаюць усё, заўсёды больш, чым тых, што ўсё разумеюць.

**Талковая жанчына нават з малпы можа зрабіць чалавека.**

Калі ты лічыш, што ты дурны, то ты ўжо разумней самога сябе.

**Да яго, нарэшце, зьявілася такая вялікая думка, што ніяк не ўкладалася ў галаве.**

# ЖАРТАМ І ЎСУР'ЁЗ

— Тата, Павал просіць мае рукі. Што яму сказаць?..
— Скажы яму, што ў тваю руку я нічога не ўлажу.

— Праўда, што памёр Гаўрыла?
— Так. І ўсё, што меў, пакінуў сваёй жонцы.
— І багата пакінуў?
— Пяцёра малых дзяцей...

— Якое аднастайнае жыцьцё настала.
— Чаму?
— Учора ня меў грошай і сёньня таксама.

— Доктар, у мяне зуб...
— На каго? — спытаў дэнтыст.

Жабрак спыніў на вуліцы тоўстую жанчыну.
— Паважаная спадарыня, прашу мне дапамагчы, я ня еў тры дні.
— О Божа! — усклікнула жанчына. — Як-бы я хацела мець вашу сілу волі!..

Навошта мужчына жэніцца?
На Беларусі, таму што краіна чакае, каб ён выканаў свой абавязак.
У Францыі, каб мець французкую кухню ў доме.
У Галівудзе, каб мець зь кім разьвесьціся.

— Доктар, мяне непакоіць стан майго здароўя.
— А што здарылася?
— Вось ужо колькі дзён мне здаецца, што ўсё, пра што гаворыць мая жонка, мае сэнс!

— Для чаго Бог стварыў бульбу?
— Для таго, каб і бедныя людзі мелі з чаго скуру дзерці.

— Нешта ў мяне валасы выпадаюць, — кажа афіцэр салдату прычэсваючы галаву.
— Вясной, спадар афіцэр, усякая жывёліна ліняе, — адказаў салдат.



Закаханыя заўжды адны на сьвеце —
Пакауль не нараджающца ў іх дзеці
(Адзін, другі, трэйці...)

Лепей у згодзе жыць і воду піць,
чым адзін аднаго трэсьці й... мёд есьці.

У пялюшках нас вучаць музыкі, у школе нас вучаць Цыцэрона, сьвет вучыць нас разнае гімнастыкі, але розуму вучыць — жонка.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК







— А ну злазь!!!



— Калі прапіў канарэйку, цяпер сам сядзі на яго месцы.



— *Панюхай, сабачка, і шукай гаспадара...*





Люблю я зімы з маразамі,
Завеі белыя ў палёх,
І сьнегу скрып пад палазамі,
І ціш зімовую ў лясох.

Люблю я ветру сьпеў гаротны
Ў сялянскіх комінах пустых,
На полі белыя палотны —
Абрусы хмарак сьнегавых...

Я. Колас

*Editor and Publisher: Nikolas Prusky*
*1086 Forest Hills Ave., SE. Grand Rapids, Mich. 49506 USA.*